● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

1 кастрычніка 1996 г. аўторак, № 239 (23042)




# ЗВЯЗДА

**УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
**№ 386**
**АБ ДАЛУЧЭННІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДА КАНВЕНЦЫІ АБ СПАГНАННІ ЗА МЯЖОЙ АЛІМЕНТАЎ**

1. Прыняць прапанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб далучэнні Рэспублікі Беларусь да Канвенцыі аб спагнанні за мяжой аліментаў, прынятай у рамках ААН 20 чэрвеня 1956 г.

2. У мэтах выканання артыкула 2 Канвенцыі аб спагнанні за мяжой аліментаў ускласці функцыю перадатачнай інстанцыі на Міністэрства юстыцыі, функцыю прамежнай інстанцыі — на раённыя (гарадскія) суды Рэспублікі Беларусь.

3. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь ажыццявіць неабходныя меры па выкананню гэтага Указа.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

27 верасня 1996 г., г. Мінск.

## НАЧНЫЯ ПАГОНІ

**На мінулым тыдні, бліжэй да выхадных, у адну з глыбокіх начэй наваколле вёскі Любонічы Кіраўскага раёна тройчы рабілася пляцоўкай для старту незвычайнага аўтарадэо. Чацвёрка незнаёмых у масках, узброеных пісталетам і паляўнічай стрэльбай, на легкавушцы «Жыгулі» з праблісквавым маячком чырвонага колеру падпільноўвалі на шашы адзіночныя машыны і праследавалі іх. Гэта былі сапраўдныя пагоні — са звышскорасцямі і стралянінай наўздагон.**

Дзесьці ў 20.30 банда «прычапілася» да прыватнага прадпрымальніка з Луганскай вобласці. Даганяючы яго аўтобус «Ікарус», злачынцы зрабілі некалькі стрэлаў са стрэльбы па колах. Адсталі яны толькі каля паста ДАІ ў вёсцы Баяры Бабруйскага раёна.

У 4.40 рабаўнікі з вялікай дарогі ў тым жа месцы ўвязаліся за «Фольксвагенам» гомельскага камерсанта. Каля 10 разоў стралялі па аўтамабілю ахвяры. Таксама не дагналі, хацця і трапілі па колах: жаданне праследаваць хапіла толькі да запраўкі паблізу вёскі Сычкова Бабруйскага раёна.

І ўсё ж «прывіды ў масках» дамагліся свайго, прыпынуўшы каля тых жа Любонічаў «Мерседэс» з трыма «фірмачамі» з Ліды і Гродна. Пагражаючы зброяй, адабралі 1500 долараў ЗША, 9 залатых ювелірных вырабаў і дыпламат з дзелавымі паперамі.

Пакуль крымінальны вышук заняты актыўнымі пошукамі, няхай гэтыя ліхія прыгоды паспрыяюць беспецы іншых патэнцыяльных ўдачнікаў.

**Сяргей ХРЫПАЧ.**

## ЗА ВУЧОНЫЯ СТУПЕНІ І ЗВАННІ ЎСТАНОЎЛЕНА ДАПЛАТА

**У мэтах павышэння прэстыжу і эфектыўнасці інтэлектуальна-творчай працы, умацавання навуковага патэнцыялу рэспублікі Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў указ, у адпаведнасці з якім з 1 студзеня 1997 года ўстаноўлены памеры штомесячных даплат за вучоныя званні і ступені.**

Акадэмікі і члены-карэспандэнты Акадэміі навук Беларусі, Акадэміі аграрных навук, асноўным месцам работы якіх з'яўляюцца ўстановы і арганізацыі навукі, адукацыі, культуры, аховы здароўя, а таксама пенсіянеры, якія маюць гэтыя званні, будуць атрымліваць адпаведна дзевяць і сем мінімальных заробтных плат. Дактарам і кандыдатам навук — работнікам арганізацый і ўстаноў, што фінансуюцца за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту, прадугледжаны адпаведна шэсць і тры мінімальныя заробтныя платы.

Кіраўнік дзяржавы даручыў Кабінету Міністраў прадугледзець у праекце рэспубліканскага бюджэту на 1997 год сродкі на павелічэнне памераў даплат за вучоныя званні і ступені.

**БЕЛТА.**

## «Карзіна» і кашалёк. Параўнаем?

**Як паведамілі «Звяздзе» ў аддзеле сацыяльных нарматываў Міністэрства працы, на сёння мінімальны спажывецкі бюджэт (альбо штомесячныя расходы на задавальненне асноўных фізіялагічных і сацыяльных патрэб) для кожнага члена сям'і з чатырох чалавек ацэньваецца ў 1 мільён 102 тысячы 982 рублі.**

Між тым, варта адразу адзначыць: прыведзеная вышэй лічба далёка не універсальная. Справа ў тым, што ў залежнасці ад полу, узросту і сацыяльнага становішча памеры так званай «спажывецкай карзіны» вызначаюцца аж для васемнаццаці катэгорый насельніцтва. Найбольш «цяжкі» ён у мужчын працаздольнага ўзросту (прыкладна 1 мільён 317 тысяч), далей ідуць працаздольныя жанчыны (1 мільён 296 тысяч) і г. д. Адрозніваюцца і суадносіны выдаткаў. Так, роўна палова мінімальнага спажывецкага бюджэту мужчын ідзе на харчаванне, 14,2 працэнта — на адзенне і абутак, 11,7 працэнта — на аплату жыллёва-камунальных паслуг, 10,8 працэнта — на прадметы сацыяльна-бытавога прызначэння, 7,5 працэнта — на аплату бытавых паслуг, транспарту і сувязі, 4 працэнты — на прадметы санітарыі і лекі, 1 працэнт — на культурна-асветныя мерапрыемствы і 0,7 працэнта — на ўзносы і плацяжы. З іншага боку, жанчыны крыху больш трацэць на адзенне, прадметы сацыяльна-бытавога прызначэння і санітарыі, на бытавыя паслугі і адпачынак, затое менш — на харчаванне.

Зрэшты, апошні артыкул расходаў найбольш значны для ўсіх 18 сацыяльна-дэмаграфічных груп без выключэння. Таму інфармацыя для роздуму. Напрыклад, каб жыць і нармальна харчавацца, кожны дарослы мужчына павінен штомесяц выдаткоўваць не менш як 77 тысяч на хлеб, хлебабулачныя вырабы і крупы, 50 тыс. — на бульбу, 168 тыс. — на мяса, 113 тыс. — на малако і малочныя прадукты, 75 тыс. — на агародніну, 60 тыс. — на ягады і садавіну, па 29 тыс. — на яйкі і цукар, 22 тыс. — на рыбу, 16 тыс. — на маргарын і тлушчы, 8 тыс. — на алей, па 5 тыс. — на кандытарскія вырабы і гарбату.

І яшчэ. Усе гэтыя лічбы чыста ўмоўныя і ні ў якім разе не з'яўляюцца нейкай сацыяльнай гарантыяй з боку дзяржавы. Кажучы проста, у любым выпадку памеры «спажывецкай карзіны» будуць залежаць толькі ад таўшчыні вашага кашалька.

**Сяргей ГРЫБ.**

*ПОГЛЯД*

## «У НАС АДНА НА ЎСІХ БЕЛАРУСЬ!»

**Гэтыя звароты з'явіліся амаль адначасова і належаць людзям аднаго асяроддзя — дзеячам культуры і прадстаўнікам творчай інтэлігенцыі Беларусі.**

Першы, як паведаміла інфармацыйнае агенцтва БелТА, падпісаны народным артыстам Беларусі, кампазітарам Генрыхам Вагнерам, народным мастаком Беларусі Віктарам Грамыкам, народным артыстам Беларусі Уладзімірам Гасцюхіным, дырэктарам — мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета, народным артыстам СССР Валянцінам Елізар'евым, народным артыстам СССР, прэзідэнтам Канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў Мікалаем Яроменкам, народным артыстам Беларусі, кіраўніком ансамбля «Сябры» Анатолем Ярмоленкам, рэктарам Беларускай акадэміі музыкі, народным артыстам Беларусі Міхаілам Казінцом, дырэктарам — мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы, заслужаным дзеячам мастацтваў Сяргеем Картэсам, акадэмікамі Акадэміі навук Беларусі Міхаілам Савіцкім і Георгіем Паплаўскім, народным

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## АДНЫМ СКАЗАМ

- На 26 верасня **даходная частка** бюджэту выканана толькі на 54 працэнты.
- Запазычанасць рэспублікі перад расійскім «Газпромам» **штомесячна ўзрастае** на 25—30 мільёнаў долараў.
- Наш агульны знешні доўг **за энергію і паліва**, уключаючы пеню за пратэрміноўку плацяжоў, перавышае 900 мільёнаў долараў.
- У студзені—жніўні на развіццё эканомікі і сацыяльнай сферы **накіравана ўсяго 13,3 трыльёна рублёў інвестыцый**, што ў параўнальных цэнах на 15 працэнтаў менш, чым за адпаведны перыяд мінулага года.
- У цэлым па прамысловасці **цэны** за 8 месяцаў выраслі амаль на 18 працэнтаў.
- Перад самай аварыяй на Чарнобыльскай АЭС было **50 узгаранняў на розных атамных электрастанцыях** СССР.
- У свеце налічваецца прыкладна **5 тысяч «жывых» моў**: жыхары адной толькі Індыі размаўляюць на 845 мовах і гаворках.
- У выніку банкруцтва «Цверуніверсалбанка» ў Расіі **камерцыйныя банкі** нашай рэспублікі **панеслі страты**, якія складаюць каля 30 мільёнаў долараў.

*ТРАГЕДЫЯ*

## ЯДАВІТАЕ МЯСА

**Няшчасцем закончыўся суботні дзень для сям'і з вёскі Мічуліна Ваўкавыскага раёна. Работнікі «хуткай дапамогі», якія прыбылі на месца здарэння каля 5 гадзін вечара, засталі невясёлую карціну: чатыры чалавекі нерухома ляжалі ў сваім доме.**

Выратоўваць бацьку і яго пятнаццацігадовага сына ўжо было позна: брыгадзе «хуткай дапамогі» заставалася толькі канстатаваць факт смерці. Што ж датычыцца маці, загадчыцы бібліятэкі, і васьмігадовай дачкі, то яны ў непрытомным стане дастаўлены ў бальніцу. Мяркуецца, што ўся сям'я атруцілася мясапрадуктамі хатняга прыгатавання.

**Ігар ГРЫШЫН.**



**Вечар. Возера Волас.** Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.

АКТУАЛЬНАЯ РАЗМОВА ЗА «КРУГЛЫМ СТАЛОМ»

*1 кастрычніка — Дзень пажылых людзей*

## ГРАМАДСКАЯ І ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎВАГА ДА ГЕРЫЯТРЫІ ЯК СРОДАК, ЭФЕКТЫЎНЫЯ ЛЕКІ І ЎСЕНАРОДНЫ ШЛЯХ ДА ДОЎГАЖЫХАРСТВА

***«Звязда» традыцыйна запрашае да размовы за «круглым сталом» медыцынскіх работнікаў самых розных накірункаў. Напярэдадні Дня пажылых людзей да нас у рэдакцыю завіталі прафесар Уладзімір Пятровіч Сыты — галоўны тэрапеўт Міністэрства аховы здароўя, Віктар Васільевіч Калабанаў — начальнік упраўлення медыка-сацыяльнай рэабілітацыі і экспертызы Міністэрства аховы здароўя і Валерый Рыгоравіч Гірын — галоўны ўрач 15-й паліклінікі г. Мінска. Удзел у размове, прысвечанай пытанням герыятрыі (што ў перакладзе на зразумелую мову азначае ўвесь комплекс медыцынскай абароны пажылых людзей), прынялі журналісты Алесь Карлюкевіч і Сяргей Протас. Прапануем вашай увазе запіс дыскусіі за «круглым сталом» «Звязды».***

— Старэнне насельніцтва, — пачаў размову Уладзімір Пятровіч Сыты, — адна з самых вялікіх і важных праблем нашага стагоддзя. І мае, заўважу, вялікае значэнне для эканомікі, сацыяльнай палітыкі краіны. Павелічэнне працягласці жыцця — становыча паказчык развіцця чалавецтва ўвогуле. Дазвольце звярнуць увагу на шэраг статыстычных даных. У 1950 годзе ў свеце пражывала каля 200 мільёнаў людзей ва ўзросце 60 гадоў і старэй. У 1975 годзе — ужо 350 мільёнаў. Мяркуецца, што да 2000 года гэты паказчык дасягне 590 мільёнаў чалавек. Тэмпы прыросту людзей сталага веку ўвесь час павялічваюцца. Доля пажылых людзей у насельніцтве развітых краін складае ад 12 да 23 працэнтаў. А ў дзяржавах, якія развіваюцца, — у межах 4—7 працэнтаў. Прагнозы на бліжэйшыя гады сведчаць, што больш марудным гэты працэс будзе ў развітых краінах. А вось у тых, якія развіваюцца, — паскорыцца, набудзе дынаміку.

**Сяргей Протас: — Прабачце, якія ж тады дэмаграфічныя зрухі чакаюцца ў нас у Беларусі?**

Уладзімір Сыты: — Што датычыцца нашай краіны, то на дэмаграфічныя змены, безумоўна, паўплывае працэс хуткага старэння. Спрацоўваюць вядомыя фактары: зніжэнне нараджальнасці і павелічэнне колькасці пажылых людзей. Зараз колькасць старых дасягае 20, а па асобных рэгіёнах і больш, працэнтаў.

**Алесь Карлюкевіч: — Відавочна, што і на ваша мысленне, як дзяржаўных чыноўнікаў, і медыкаў-практыкаў гэтыя працэсы аказваюць ціск, падштурхоўваюць да пэўных дзеянняў...**

Уладзімір Сыты: — Безумоўна. У краіне сёння як ніколі сталі актуальнымі праблемы абслугоўвання пажылых людзей. Міністэрства аховы здароўя перакanana, што вырашэнне чыста медыцынскіх, здавалася б, праблем без пільнай дзяржаўнай увагі да вырашэння ўвогуле сацыяльных задач немагчыма. Вось таму арганізацыя герыятрычнай службы міністэрства адбываецца ў адпаведнасці з рэспубліканскай комплекснай праграмай па праблемах пажылых людзей, якая зацверджана яшчэ ў 1993 годзе.

Наша праграма ўваходзіць у праграму Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. І пытанняў нявырашаных тут хапае. Варта ўсё ж улічваць, што здароўе старэючых людзей паляпшаецца.

**Алесь Карлюкевіч: — Дарэчы, з самага пачатку размовы мы так і не вызначылі, хто ж гэта такі — пажылы чалавек?**

Віктар Калбанаў: — Калі гаварыць пра ўзрост, то да пажылых людзей адносяць тых, хто перасягнуў пенсіённую мяжу. Значыць, 60 (для жанчын — 55) гадоў і старэй. Але ў розных краінах падыход да такога вымярэння існуе самы розны.

**Сяргей Протас: — У згаданай праграме, наколькі мне вядома, існуе наступная градацыя: пажылыя — ва ўзросце ад 60 да 75 гадоў. Пачынаючы з 75 — людзі старога ўзросту, з 90 гадоў — доўгажыхары...**

Віктар Калабанаў: — Так, сапраўды. Але калі гаварыць пра заходні свет, то там ёсць і такое панятце: «пажылы рабочы». Сусветная арганізацыя аховы здароўя вызначыла яго ўзрост: 45 гадоў і старэй.

**(Заканчэнне на 6-й стар.)**

## АДКАЗНАЕ СЛОВА ЗА НАМІ

**Учора сталі вядомыя канчатковыя вынікі падпіскі на IV квартал гэтага года.**

УСЯГО ПА РЭСПУБЛІЦЫ
(экземпляраў)

**«ЗВЯЗДА»** — 90.680
**«Народная газета»** — 220.197
**«Советская Белоруссия»** — 197.093
**«Рэспубліка»** — 99.174
**«Белорусская нива»** — 93.531
**«Чырвоная змена»** — 48.927

## ПАСТАНОВА
### Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Аб унясенні дапаўнення ў Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні галоўным рэдактарам «Народнай газеты» Юнчыка Л. М.»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Дапоўніць Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 11 ліпеня 1996 года «Аб зацвярджэнні галоўным рэдактарам «Народнай газеты» Юнчыка Л. М.» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1996 г. № 24, арт. 450) часткай другой наступнага зместу:

«Гэта Пастанова ўводзіцца ў дзеянне з 1 кастрычніка 1996 года».

2. Гэта Пастанова ўводзіцца ў дзеянне з дня прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШАРЭЦКІ**

27 верасня 1996 г., г. Мінск.
№ 633-XIII

## Беларускія кнігавыдаўцы спяшаюцца ў Франкфурт-на-Майне

На маючы адбыцца 2—7 кастрычніка ў Германіі 48-ы міжнародны кірмаш адпраўляецца і прадстаўнічая беларуская дэлегацыя на чале са старшынёй Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Бельскім.

У саставе дэлегацыі — выдаўцы, паліграфісты, распаўсюджвальнікі кнігі. На нацыянальным стэндзе, які будзе прадстаўляць нашу краіну на кірмашы ў Франкфурце-на-Майне, мяркуецца выставіць больш як 200 кніг.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## *НАДВОР'Е*

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у паўночна-заходніх раёнах дажджы. Тэмпература паветра ў Мінску, Магілёве, Віцебску — 13—15, Гомелі — 15—17, Гродне — 16—18, Брэсце — 17—19 градусаў.

У наступныя двое сутак: 2 кастрычніка ўначы — на большай частцы тэрыторыі, удзень — на ўсходзе кароткачасовыя дажджы; 3-га ўдзень — у паўночных раёнах слабыя дажджы. Тэмпература 2-га ўначы — 7—12, 3-га — 3—8; удзень — 9—14 градусаў цяпла.

# «У НАС АДНА НА ЎСІХ БЕЛАРУСЬ!»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**
артыстам СССР Аркадзем Саўчанкам, мастацтвазнаўцам Рычардам Смольскім, старшынёй Саюза музычных дзеячаў Міхаілам Дрынеўскім.

Аўтары ліста выказваюць занепакоенасць нестабільнасцю, якая ўзнікла ў грамадстве, усведамляюць, што сёння вырашаецца лёс дзяржаўнасці беларускага народа, гістарычнай і духоўнай спадчыны краіны. Далей яны сцвярджаюць, што падтрымліваюць імкненне Прэзідэнта А. Р. Лукашэнкі вынесці на ўсенароднае абмеркаванне важнейшыя пытанні нашага жыцця і заклікаюць усіх выканаць свой грамадзянскі абавязак і абараніць мір і згоду ў рэспубліцы. Папярэдне названыя дзеячы культуры і мастацтва, звяртаючыся да сваіх калег, нагадваюць, што «Прэзідэнтам былі зроблены крокі па паляпшэнню сацыяльнага становішча дзеячаў культуры і мастацтва, захаваны асноўны творчы патэнцыял краіны, устаноўлены сацыяльныя стыпендыі для творчай моладзі, даплаты вядучым дзеячам культуры...»

Сааўтарамі другога ліста з'яўляюцца не менш вядомыя ў Беларусі людзі: Васіль Быкаў, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Мікалай Матукоўскі ды іншыя. Яны таксама пагаджаюцца з тым, што Беларусь аказалася ў вельмі складанай сітуацыі, нават на парозе нацыянальнай трагедыі. Але небяспека, па іх вызначэнню, хаваецца якраз у ідэі ініцыіраванага Прэзідэнтам рэферэндуму, які спіхне краіну ў бездань канфрантацыі. Таму аўтары гэтага ліста вельмі адмоўна ўспрымаюць прапанаваны рэферэндум і нават выступілі ініцыятарамі склікання Нацыянальнага кангрэса ў абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры. Яны сцвярджаюць, што Беларусь — гэта не толькі тыя, хто бясспрэчна падтрымлівае Лукашэнку, што ёсць сілы, якія заклікаюць забыцца на палітычныя рознагалоссі дзеля будучага краіны. «Мы звяртаемся да вас, людзі Беларусі! Хопіць жыць у страху і нянавісці адзін да аднаго. Мы — адзін народ. У нас адна на ўсіх Беларусь!» — такімі словамі заканчваецца зварот.

Як бачым, у залежнасці ад грамадзянскіх перакананняў тых, хто падпісаў гэтыя лісты, яны зусім процілеглыя па зместу. І гэта не дзіўна. Стан нашай інтэлігенцыі яскрава адлюстроўвае тую сітуацыю, у якой аказалася ўсё грамадства. На думку Прэзідэнта, які ініцыіраваў правядзенне рэферэндуму, яго прапанова павінна аб'яднаць беларускі народ. Але жыццевырашальная ідэя, наконт якой існуюць процілеглыя погляды, што падтрымліваюцца мноствам людзей з абодвух бакоў, не можа быць аб'яднальнай. Наадварот, ход падзей у краіне паказвае, што плебісцыт акажа толькі адмоўнае ўздзеянне. Умераная канфрантацыя, якая працягваецца вось ужо некалькі гадоў, можа перарасці ў канчатковы раскол грамадства, пасля якога вяртання назад і нейкага прымірэння канфліктуючых бакоў ужо не будзе.

Безумоўна, любое грамадства неаднароднае, але ўзаемаадносіны паміж прыхільнікамі і праціўнікамі тых ці іншых ідэй вызначаюцца станам палітычнай і прававой культуры. Таму існуюць пытанні, якія прынята пазбягаць абмяркоўваць шырока, каб не напаляць атмасферу ў грамадстве. Рэферэндум 1995 года, зразумела, не змог аб'яднаць грамадства, а яшчэ больш абвастрыў варожасць. Сёння ж процістаянне дасягнула крытычнай рысы. Пытанне заключаецца ў тым, ці хопіць мудрасці ў беларускага кіраўніцтва не падштурхнуць народ на такі крок. Таму ў гэтых абставінах лепш спыніцца і ўсім усур'ёз задумацца. Задумацца хаця б над прымаўкай, якая сцвярджае, што лепей сем разоў змарыцца, як адзін раз пасварыцца.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# У ПЕРАХОДНЫ ПЕРЫЯД ПАЛІТЫЧНЫЯ РЭФОРМЫ НЕПАЗБЕЖНЫЯ,
## але яны павінны весціся на аснове кампрамісу і цывілізаванага падыходу да вырашэння спрэчных пытанняў

**Можна сказаць, гэта асноўны лейтматыў перамоў і сустрэч, што адбыліся ва Украіне ў час знаходжання там групы экспертаў у саставе начальніка Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Міхаіла Падгайнага, намесніка начальніка Галоўнага ўпраўлення прававога забеспячэння Аляксандра Пласкавіцкага, кіраўніка прэс-службы Валерыя Талкачова, дырэктара Інстытута сацыялогіі АН Беларусі, доктара філасофскіх навук, члена-карэспандэнта АН Беларусі Яўгена Бабосава.**

Вядома, што працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі, успрымаюцца ў свеце неадназначна. Прычына таго, адзначалася ў час многіх гутарак, — неінфармаванасць замежнай грамадскасці аб сітуацыі ў нашай краіне. У нейкай меры гэты прабел і кампенсаваўся прыездам адказных работнікаў Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі. Больш таго, як вядома, да нядаўняга часу ва Украіне таксама назіраўся канстытуцыйны крызіс, які цягнуўся доўга і вырашыўся толькі ў чэрвені сёлетняга года. «І гэта зразумела, — падкрэсліваў у гутарцы кіраўнік службы па пытаннях гуманітарнай палітыкі Адміністрацыі Прэзідэнта Украіны Васіль Крэмень, — ідзе станаўленне самастойных дзяржаў, у якіх без палітычнай рэформы, без дакладнага размеркавання паўнамоцтваў усіх галін улады немагчымы ніякія эканамічныя пераўтварэнні». Ён адзначыў, што Канстытуцыя Украіны — гэта вынік кампрамісаў, якія былі дасягнуты паміж Прэзідэнтам і Вярхоўным Саветам. І такім чынам Украіна яшчэ раз прадэманстравала ўсяму сусветнаму супольніцтву непахісную прыхільнасць да курсу дэмакратычных пераўтварэнняў у краіне, уменне знаходзіць цывілізаваныя развязкі ў самых складаных, у самых, здавалася б, канчаткова заблытаных, амаль безнадзейных палітычных сітуацыях.

**(Заканчэнне на 6-й стар.)**

# *А. ЛЕБЕДЗЬ:* «ПРАЦЭСЫ Ў РАСІІ АДБЫВАЮЦЦА ВЕЛЬМІ СУР'ЁЗНЫЯ...»

**І зноў расійскае дзіва: за самы кароткі тэрмін у вялікай палітыцы новы сакратар Савета бяспекі Расіі А. Лебедзь у спісе папулярных людзей, якім больш за ўсіх давяраюць расіяне, заняў першы радок. Адстаўны генерал працягвае набіраць выйгрышныя ачкі, яго імя не сыходзіць з тэлеэкранаў і газетных старонак.**

А. Лебедзь лічыць, што сёння найбольш вострымі з'яўляюцца армейскія праблемы, ад вырашэння якіх залежыць нават лёс усёй Расійскай Федэрацыі. Сённяшняя сітуацыя ва Узброеных Сілах настолькі небяспечная, што, як заявіў памочнік прэзідэнта па пытаннях бяспекі, Расія стаіць на парозе ўзброенага бунту, які можа выбухнуць «нават гэтай восенню». Адказваючы нядаўна на пытанні, генерал, у прыватнасці, сказаў:

— Вырашылі канчаткова разваліць Узброеныя Сілы, утапіць міністра абароны. А новы міністр узяўся за справу сур'ёзна, удумліва. Ён прафесіянал вышэйшага класа. Але што ён можа зрабіць, калі міністэрства фінансуецца ў ліпені на 4 працэнты, а ў жніўні — нуль? Гэта наша нацыянальная ганьба. І не таму, што міністр так захацеў. Міністэрства абароны не атрымлівае грошы, затое астатнія сілавыя ведамствы фінансуюцца «пад завязку». Я разумею так: калі развальваюць армію і ўзмацняюць унутраныя войскі, дык баяцца не знешняга ворага, а ўнутранага. Сёння ў Расіі заведзены тыя ж механізмы, якія разбурылі Савецкі Саюз. Пры падобнай сітуацыі дзяржава можа зайсці вельмі далёка... Урад прытрымліваецца страусавай палітыкі. А працэсы ў Расіі адбываюцца вельмі сур'ёзныя...

**Леанід ФАДЗЕЕЎ,**
**уласны кар. «Звязды» ў Маскве.**

## *СПОРТ*

### *ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ*
### НАПАЛ НЕ СПАДАЕ

**Матчам сталічных каманд «Атака-Аўра» і «Дынама» ўчора завяршыўся 24-ы тур чэмпіянату Беларусі па футболу. Аб яго выніку мы паведамім у наступным нумары, а напярэдадні завяршыліся сем матчаў.**

Безумоўна, найбольш цікавай была сустрэча ў Мінску, дзе на стадыёне «Трактар» сустракаліся «Дынама-93» і МВКЦ. Для палескіх футбалістаў матч меў архіважнае значэнне. Іх задавальняла толькі перамога, бо тады яны не толькі бралі рэванш за паражэнні ў першым крузе першынства і ў кубкавай сустрэчы, але і захоўвалі шанцы на залатыя медалі. Мазыране ў канчатковым выніку дабіліся жаданага — 2:1, і выйшлі ў лідэры.

**Ад вынікаў астатніх сустрэч турнірная табліца асабліва не змянілася.**

Дынама (Бр)—Нафтан-Дэвон — 3:0
Тарпеда (Мн)—Тарпеда (Мг) — 0:1
Нёман—Абутнік — 1:1
Лакаматыў-96—Шахцёр — 3:2
Днепр—Ведрыч — 2:1
Маладзечна—Белшына — 0:0

**Турнірная табліца пасля 24 тураў**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. МВКЦ | 24 | 20 | 2 | 2 | 55-13 | 62 |
| 2. Дынама (Мн) | 23 | 19 | 3 | 1 | 68-15 | 60 |
| 3. Белшына | 24 | 16 | 3 | 5 | 57-26 | 51 |
| 4. Атака-Аўра | 22 | 12 | 5 | 5 | 25-22 | 41 |
| 5. Лакаматыў-96 | 24 | 11 | 8 | 5 | 37-20 | 41 |
| 6. Дынама-93 | 22 | 11 | 4 | 7 | 27-24 | 37 |
| 7. Нафтан-Дэвон | 24 | 11 | 4 | 9 | 36-40 | 37 |
| 8. Днепр | 24 | 10 | 4 | 10 | 27-26 | 34 |
| 9. Маладзечна | 24 | 9 | 6 | 9 | 37-28 | 33 |
| 10. Дынама (Бр) | 24 | 6 | 9 | 9 | 32-34 | 27 |
| 11. Шахцёр | 24 | 5 | 4 | 15 | 19-41 | 19 |
| 12. Тарпеда (Мг) | 24 | 5 | 4 | 15 | 21-55 | 19 |
| 13. Тарпеда (Мн) | 24 | 4 | 6 | 14 | 19-47 | 18 |
| 14. Нёман | 23 | 4 | 6 | 13 | 19-43 | 18 |
| 15. Абутнік | 24 | 4 | 5 | 15 | 19-37 | 17 |
| 16. Ведрыч | 24 | 4 | 3 | 17 | 14-60 | 15 |

Зараз у чэмпіянаце Беларусі наступае двухтыднёвы перапынак, звязаны з выступленнем нацыянальнай зборнай у адборачных матчах чэмпіянату свету. Гульні адновяцца 13 кастрычніка. Матчы з удзелам лідэраў: МВКЦ—«Атака-Аўра», «Дынама» (Мн)—«Маладзечна», «Белшына»—»Днепр».

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### *ГАНДБОЛ*
### ГЛЯНЬ, ЗНАЁМЫЯ ЎСЁ ТВАРЫ

**Заўтра ў 19.00 на мінскім легкаатлетычным манежы «Уручча» зборная Беларусі па гандболу сустрэнецца ў адборачным матчы чэмпіянату свету з камандай Ізраіля.**

Учора мы ўзялі экспрэс-інтэрв'ю ў галоўнага трэнера беларускай зборнай Спартака МІРАНОВІЧА.

**— Спартак Пятровіч, напярэдадні вашы падапечныя прайгралі ў таварыскай сустрэчы ўкраінцам.**

— Так, аднак мы і не ставілі перад сабой мэту біцца да апошняй кроплі крыві. Паэксперыментавалі, выпрабавалі ў справе маладых...

**— І якія вынікі?**

— Я задаволены. Без аніводнага «легіянера» каманда прайграла асноўнаму саставу ўкраінскай зборнай усяго толькі з лікам 22:24.

**— А хто з нашых «легіянераў» прыедзе ў Мінск?**

— Будуць «немцы» Андрэй Клімавец («Райнхаўзен»), Андрэй Сіняк («Лемга»), Генадзь Халепа («Нэтэльштат») і Андрэй Барбашынскі («Хамельн»). Астатніх гандбалістаў я берагу для больш адказных сустрэч з аднагрупнікамі — галандцамі і чэхамі.

**— Спадзяецеся на лёгкую перамогу заўтра?**

— Зусім не, хоць пра сапернікаў мы амаль што нічога не ведаем. Акрамя таго, што каманда Ізраіля цэпкая, рэзкая і ў сваім саставе мае вельмі шмат ігракоў з былога СССР, якія ў свой час памянялі грамадзянства. Той жа варатар Дарашэнка раней гуляў за зборную Саюза. Так што, ведаючы «савецкую» гандбольную школу, можна не сумнявацца, што папацець нам давядзецца добра.

— Поспехаў!

**Алесь СІВЫ.**

### *БАСКЕТБОЛ*
### ЛЕПШЫЯ РАДУЮЦЬ ЗАМЕЖНЫХ БАЛЕЛЬШЧЫКАЎ

**У мінулыя выхадныя стартаваў юбілейны, 5-ы чэмпіянат Беларусі па баскетболу.**

Неяк ціха і непрыметна надышоў час здзімаць пыл з баскетбольных мячоў. Зусім не дзіўна, што да гэтага пра нацыянальны баскетбол мы гаварылі як пра нябожчыка: ці добра, ці зусім нічога. У сваёй большасці перавага аддавалася другому: добрых навін — кот наплакаў. Ды і адкуль ім быць, калі нашы лепшыя спартсмены радуюць сёння зусім не беларускага балельшчыка: у Польшчы — Ігар Грышчук, Сяргей Жалудок, Аляксей Альшэўскі; у Расіі — Руслан Байдакоў, Дзмітрый Кузьмін, Валерый Дайнека; у Амерыцы вучацца ва універсітэце імя Джорджа Вашынгтона і гуляюць за аднайменную каманду Аляксандр Куль, Ягор Мешчаракоў, Андрэй Крыванос.

Апошніх наогул можна лічыць адрэзанай лустай, бо нават у матчах адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы (першы матч адбудзецца ўжо ў гэтым месяцы) за зборную Беларусі яны выступаць не будуць. З Вашынгтона на гэты конт далікатна адказалі: маўляў, зважай спадарства, але ў хлопцаў пачынаецца сесія, а пасля і гульні студэнцкага першынства NCAA, так што да сакавіка наступнага года пра іх забудзьце. Забудзем — прывычныя. Мы ўжо амаль забылі, што мінулагодняга чэмпіёна нашага першынства — «Гродна-93» — Міжнародная федэрацыя баскетбола нават не пусціла выступаць у еўракубкавым турніры па прычыне банальнай, аднак для еўрапейцаў незразумелай. Яны ніяк не могуць уцяміць, што беларуская Федэрацыя баскетбола не можа заплаціць невялікі штраф (у свой час мінскі клуб РТІ не з'явіўся ў Іспанію на сустрэчу з мясцовай «Барселонай» з-за адсутнасці сродкаў) таму, што ў федэрацыі ў самой няма грошай.

А зрэшты, як бы там ні было, аднак тое, што ёсць, усё ж такі лепш, чым калі б увогуле нічога не было. Нацыянальнае першынство рушыла ў шлях, і мы прапануем вам на «дэсерт» сістэму правядзення чэмпіянату. Дзевяць каманд — «Гродна-93» (Гродна), РТІ-РШВСМ (Мінск), «Аўтазаводзец» (Мінск), РВАР (Мінск), «Сож» (Гомель), «Тэмп» (Магілёў»), «Лакаматыў-Шыком» (Віцебск), АЗАА (Асіповічы), «Папірус-Акдзімол» (Барысаў) — спачатку згуляюць паміж сабой, і толькі васьмёрка мацнейшых працягне барацьбу за выхад у 1/2 фіналу. Фіналы за першае і трэцяе месцы пройдуць 29 сакавіка, 5-6 красавіка і будуць гуляцца да дзвюх перамог.

**P.S.** Вынікі першых гульняў: РВАР—РТІ-РШВСМ — 85:79, 66:76 (першая і другая сустрэчы); «Гродна-93»—«Сож» — 97:82, 91:84; «Тэмп»—«Папірус-Акдзімол» — 78:82, 59:71; АЗАА—«Лакаматыў-Шыком» — 43:116, 54:114.

**Алесь СІВЫ.**

## *ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

### ВЫВАД РАСІЙСКІХ ВОЙСКАЎ З ЧАЧНІ ПАСКОРАЦЬ?

Учора пачаўся вывад з Чачні падраздзяленняў Паўночна-Каўказскай ваеннай акругі. Практычна ўсе вайсковыя часці з рэспублікі ўжо адкліканы. Сярод тых, што засталіся, — 166-я асобная мотастралковая брыгада. Сёння і яна накіруецца да месца пастаяннай дыслакацыі пад Цвер. ІТАР-ТАСС паведамляе, што вывад расійскіх войскаў з Чачні хутчэй за ўсё будзе паскораны і можа завяршыцца да канца кастрычніка. Прэзідэнт Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя Яндарбіеў гатовы прыбыць у Маскву не пазней чым 5 кастрычніка. Пра гэта заявіў у інтэрв'ю «Інтэрфаксу» прэзідэнт Інгушэціі Аушаў. Па яго словах, Яндарбіеў вылеціць у Маскву спецрэйсам з Назрані. Аушаў пацвердзіў, што Яндарбіеў мае намер сустрэцца з расійскім прэм'ерам Чарнамырдзіным, каб абмеркаваць з ім шэраг палітычных пытанняў, у тым ліку характар будучых узаемаадносінаў паміж Расіяй і ўрадам Рэспублікі Ічкерыя, а таксама пытанне пра статус Чачні.

### БЛІЗКАЎСХОДНІ КАНФЛІКТ БУДУЦЬ ВЫРАШАЦЬ У ВАШЫНГТОНЕ

Прэзідэнт ЗША Клінтан заклікаў прэм'ер-міністра Ізраіля Нетаніягу і лідэра Палесцінскай аўтаноміі Арафата спыніць хвалю насілля на заходнім беразе Іардана і ў сектары Газа і аднавіць мірныя перамовы на сустрэчы ў вярхах у Вашынгтоне. Нетаніягу вылецеў учора ў сталіцу ЗША. Яго прадстаўнік заявіў, што на працягу двух дзён прэм'ер-міністр Ізраіля разлічвае сустрэцца з Білам Клінтанам, а таксама з каралём Іарданіі Хусейнам, Ясірам Арафатам і, магчыма, з прэзідэнтам Егіпта Мубаракам. Нагадаем, што у выніку сутыкненняў, якія пачаліся ў мінулую сераду, загінулі 56 палесцінцаў і 14 ізраільскіх вайскоўцаў. Ізраільскія ўлады па прычынах бяспекі закрылі ўчора доступ на заходні бераг Іардана і ў сектар Газа для мясцовых журналістаў. Замежныя карэспандэнты могуць туды трапіць, але з пэўнымі абмежаваннямі.

### ТАЛІБЫ НАСТУПАЮЦЬ ПА ШЛЯХУ КОЛІШНЯГА АДСТУПЛЕННЯ САВЕЦКІХ ВОЙСКАЎ

Камандаванне групоўкі «Талібан» сцвярджае, што ў ноч на панядзелак сілы талібаў захапілі стратэгічна важны горад Джабаль-Усерадж і працягваюць цясніць войскі прэзідэнта Рабані, прасоўваючыся да даліны Танжэр. З незалежных крыніц пацвярджэнне гэтай інфармацыі атрымаць не ўдалося. У захопленым горадзе знаходзілася галоўная база камандуючага ўрадавымі войскамі шах-Масуда. У ноч на пятніцу талібы занялі Кабул і ў цяперашні час кантралююць тры чвэрці краіны. Спецыяльны пасланнік ААН Хол мае намер сустрэцца на поўначы краіны з лідэрам другой буйной афганскай групоўкі генералам Дустумам, які прытрымліваўся нейтралітэту ў канфлікце паміж талібамі і ўрадам Рабані. Напярэдадні Хол сустрэўся ў Кабуле з прадстаўнікамі кіраўніцтва групоўкі «Талібан».

**Паводле паведамленняў радыё «Голас Амерыкі», «Свабода», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

## *ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

Ці павінен муж біць сваю жонку? Па меркаванню суда Італіі, — можа. Ён вынес, як лічаць, сенсацыйную пастанову аб тым, што пабоі, нанесеныя жонцы ў прыпадку рэўнасці, не з'яўляюцца крымінальна караемым дзеяннем. І суд адмяніў рашэнне папярэдняй судовай інстанцыі, якая прыгаварыла да штрафу і 8 месяцаў турэмнага зняволення Франчэска Ламбарда за пабоі, нанесеныя ім жонцы. У судзе, відаць, вырашылі, што «мілыя б'юцца — толькі цешацца».

**ІТАР-ТАСС.**

Ці можа жанчына мець шэсць мужоў? Сваё перакананне егіпецкая паліцыя выказала тым, што арыштавала 27-гадовую Садакат Ібрагім Мухамед. Гэта адбылося, калі выявілася, што ў яе... шэсць мужоў. Першы раз яна выйшла замуж у 1987 годзе. Праз 7 гадоў яна «нечакана знікла», прыхапіўшы з сабой штосьці з хатняй маёмасці. А потым, як гаворыцца, працэс пайшоў. Яна яшчэ пяць разоў выходзіла замуж і столькі ж «нечакана знікала» з часткай маёмасці.

Шарыят дазваляе мужчыну пры жаданні мець чатырох жонак. А вось каб «наадварот»? Ды і то ў Садакат быў бы перабор.

**ІТАР-ТАСС.**

# ДУМАЙ, НАРОД, ДУМАЙ!

## ЛІСТЫ, У ЯКІХ БОЛЬ І НАДЗЕЯ

**Што і казаць, заклік да грамадзян прыняць удзел у абмеркаванні пытанняў, якія выносяцца на суд народа, дае свае вынікі. Асабліва гэта відаць па рэдакцыйнай пошце, якая апошнім часам значна павялічылася за кошт лістоў, адрасаваных менавіта аддзелу палітыкі. Сярод іх, як заўсёды, бываюць самыя розныя і па зместу, і па палітычнай накіраванасці, і па эмацыянальнай зараджанасці.**

**Але пры першым знаёмстве ўражвае не змест, а хутчэй аўтарства і выгляд пісьмаў. Я, мабыць, не памылюся, калі скажу, што з тузіна лістоў 2 ці 3 прысланы ў самаробных канвертах. І тады ўжо не трэба аўтару такога паслання пісаць, як цяжка яму жывецца, што мізэрнай пенсіі ці зарплаты не хапае нават на хлеб. Гэта бачна і без таго. (Прабачце, але ў такія моманты ўспамінаюцца расказы пра вайну і салдацкія трохвугольнікі.) Ды нягледзячы на тое, што людзі знаходзяцца на мяжы жабрацтва і адчаю, яны ўсё роўна імкнуцца выказаць сваю думку, яны не згінаюцца і не губляюць надзеі, што сваім голасам змогуць паўплываць на ход падзей. Гэта таксама ўражвае.**

**А зараз пра змест. Вядома, што можа напісаць пра рэферэндум чалавек, якому хапае толькі на марку, а грошай на канверт ужо не застаецца... Іншы раз гэтыя лісты нагадваюць крык душы. У іх мала аналізу падзей, у іх амаль не бывае заўваг ці прапаноў па праекту Канстытуцыі: у іх звычайна пераважаюць эмоцыі і выказваецца неразуменне таго, што адбываецца ў дзяржаве.**

**У большасці ж у газету пішуць жыхары сталіцы. І гэта не таму, што ў Мінску большы працэнт інтэлігенцыі. Прычына простая. Як напісала адна з нашых чытачак, «вясковым людзям зараз не да Канстытуцыі і не да рэферэндуму, паколькі на полі бульба яшчэ не пераарана, буракі не вырваны, а замаразкі раніцай здараюцца ўсё часцей і часцей». Адным словам, пакуль газеты, радыё ды тэлебачанне абмяркоўваюць пытанні мяркуемага рэферэндуму, працоўнаму чалавеку, дзеля якога быццам бы і задумваецца рэферэндум, не да гэтага. Сапраўды, час для правядзення выбараў і плебісцыту можа і ўдала выбраны, паколькі тады ўжо асаблівай працы не будзе, але ж зараз рабочы люд заняты больш актуальнымі і блізкімі яму праблемамі.**

**Тым не менш, мы сёння зноў друкуем нізку пісьмаў нашых чытачоў, паколькі, як я ўжо пісаў, кожны з іх спадзяецца, што яго голас і яго думкі будуць пачуты. Свае адносіны некаторыя выказваюць нават у вершаваных радках, як, напрыклад, наш чытач Дзядзюк з в. Дамавіцк Чэрвеньскага раёна. Не нам разважаць пра паэтычныя якасці верша, а вось што датычыцца зместу, то вельмі раіў бы пачытаць яго тым, ад каго залежыць лёс нашай дзяржавы.**

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## БЕЛАРУСА АПРАНАЮЦЬ ПАД ЭСКІМОСА

**Вырашыў адгукнуцца на заклік намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта А. М. Абрамовіча прыняць удзел у абмеркаванні праекта Канстытуцыі. Я ўважліва прачытаў новую (па сутнасці) Канстытуцыю, прапанаваную Прэзідэнтам і праект удакладненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, прапанаваны дэпутатамі.**

Найперш мне здаецца, што юрысты Прэзідэнта падышлі да распрацоўкі праекта больш абстрактна, без уліку псіхалогіі людзей, стану грамадства, эканамічных умоў. Карацей — не «прызямлілі» сваёй распрацоўкі. Гэтыя думкі ў мяне з'явіліся пасля прачытання Канстытуцыі Украіны. Думаю, што ніхто не будзе аспрэчваць: амаль аднолькавыя сітуацыі ў нашых дзяржавах і падобная псіхалогія людзей.

Паўнамоцтвы прэзідэнта Украіны дастаткова абмежаваныя і добра ўраўнаважваюцца Вярхоўнай Радай, якую прэзідэнт можа распусціць толькі ў выніку яе бяздзейнасці. У прэзідэнцкім праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь яго паўнамоцтвы выключна шырокія, нават дэкрэтам законы можа прымаць, што яўна не кампенсуецца правамі парламента. Дарэчы, не закладзены механізм адмены дэкрэтаў Прэзідэнта. Прагназіруемы вынік гэтага: пакуль парламент збярэцца адмяняць, «сала будзе ўжо з'едзена». Прыкладам шырокіх паўнамоцтваў Прэзідэнта з'яўляецца і пункт 20 арт. 84. Што такое «небяспека здароўю»?

Не згодзен я з Аляксандрам Абрамовічам і ў тым, што стрымліваючым механізмам унутры выканаўчай улады «з'яўляецца наяўнасць магутнага выканаўча-распарадчага органа». Так, ён магутны, толькі з гісторыі мы ведаем, што магутнасць такая звычайна накіравана ў бок абмежавання правоў грамадзян. Ды і ўспомніце ленінскае: «Дзяржава — гэта апарат прымусу».

Не відаць у праекце і моцных правоў мясцовых Саветаў, прынцыпу дэцэнтралізацыі ці дэканцэнтрацыі ўлады, фінансавага грунту дзейнасці мясцовага самакіравання... Увогуле гэты раздзел не мяняецца.

Такім чынам, прамое перайманне «прэзідэнцкіх» артыкулаў з канстытуцый іншых дзяржаў без уліку сваёй сітуацыі нагадвае нацягванне адзення эскімосаў на беларуса.

**Валерый ГРЫЦУК,**
**старшыня дэпутацкай камісіі па захаванню законнасці, ахове правоў грамадзян, галоснасці, вывучэнню грамадскай думкі Першамайскага райсавета г. Мінска.**

## УЗРОСТАВЫ ЦЭНЗ ПАВІНЕН УЛІЧВАЦЦА Ў КАНСТЫТУЦЫІ

**Лічу, што наш Прэзідэнт мае рацыю ў тым, што асобныя артыкулы і палажэнні дзеючай Канстытуцыі ствараюць цяжкасці, нязручнасці і супярэчнасці пры выкананні сваіх паўнамоцтваў Прэзідэнту як кіраўніку дзяржавы і выканаўчай улады.**

Не ўдаючыся ва ўсе падрабязнасці існуючай Канстытуцыі, мы бачым, што паміж дзвюма галінамі ўлады, заканадаўчай і выканаўчай, пераважае, мае больш правоў першая, г. зн. Вярхоўны Савет, яго спікер і Прэзідыум. Напрыклад, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь можа аб'явіць імпічмент Прэзідэнту і адхіліць яго ад пасады, а Прэзідэнт не мае права роспуску парламента.

Законы, прынятыя Вярхоўным Саветам і не падпісаныя Прэзідэнтам, парламент можа паўторна прыняць. Канстытуцыйны суд цалкам выбіраецца Вярхоўным Саветам і, як правіла, у сваёй практычнай рабоце падтрымлівае пераважна Вярхоўны Савет, г. зн. таго, хто яго выбраў.

Праект новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, унесены Прэзідэнтам і апублікаваны 2 верасня 1996 года ў друку, ліквідуе гэтыя і іншыя недахопы. Таму я лічу, што правільна зрабіў наш Прэзідэнт, што вынес чатыры важныя пытанні на рэферэндум. Няхай народ, выбаршчыкі, скажуць сваё слова: «за» ці «супраць». Усе чатыры пытанні, вынесеныя на рэферэндум, ініцыіруемы Прэзідэнтам РБ, важныя і своечасовыя. Хачу выказаць заўвагі і прапановы па другім пытанні, дзе гаворыцца: «Прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года са змяненнямі і дапаўненнямі (новая рэдакцыя Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь), прапанаваную Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам».

Як вядома, артыкулы Канстытуцыі РБ абмяжоўваюць узроставы цэнз выбіраемых народам дэпутатаў палаты прадстаўнікоў і сената, Прэзідэнта, састаў Канстытуцыйнага суда і інш. Але, на жаль, маладосць у праекце Канстытуцыі абмежавана, а старасць (пенсіённы ўзрост мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў) не абмежавана. Гэта няправільна. Працаваць на адказных пасадах у Нацыянальным сходзе, урадзе, Канстытуцыйным судзе, Прэзідэнтам пачэсна і вельмі адказна. Праца на гэтых высокіх пасадах патрабуе не толькі глыбокіх ведаў, вопыту і кваліфікацыі, але і моцнага здароўя. На жаль, чалавек не вечны, і яго здароўе, веды, вопыт абмяжоўваюцца ўзростам.

На падставе вышэйпададзенага, практыкі і вопыту прапаную ўнесці наступныя змяненні ў асобныя артыкулы праекта Канстытуцыі РБ.

Артыкул 92, дзе гаворыцца, што дэпутатам можа быць грамадзянін Рэспублікі Беларусь, якому споўніўся 21 год, а сенатарам — 30 гадоў, трэба выкласці ў наступнай рэдакцыі: «Дэпутатам палаты прадстаўнікоў можа быць выбраны грамадзянін Рэспублікі Беларусь, якому споўнілася 30 гадоў, і не старэй за 60 гадоў».

І далей па праекту прапаную ў артыкул 116, у яго 1-ы, 2-і, 3-і абзацы, дзе гаворыцца пра Канстытуцыйны суд, унесці некаторыя дапаўненні і змяненні і выкласці іх у наступнай рэдакцыі:

«Для кантролю за ходам выканання Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, адпаведнасці Канстытуцыі законаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў парламента (палаты прадстаўнікоў і сената) і ўрада выбіраецца і дзейнічае Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь. Старшынёй Канстытуцыйнага суда можа быць выбраны грамадзянін Рэспублікі Беларусь па нараджэнню, не маладзей за 35 гадоў і не старэй за 55 гадоў, які мае вучоную ступень доктара юрыдычных навук. Старшыня Канстытуцыйнага суда выбіраецца тэрмінам на 5 гадоў (а не на 11 гадоў, як у праекце Канстытуцыі) непасрэдна народам на падставе ўсеагульнага, свабоднага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні (а не прызначацца Прэзідэнтам РБ, як гаворыцца ў праекце Канстытуцыі РБ. Апошняе дазволіць пазбегнуць канфліктаў і супярэчнасцей паміж Прэзідэнтам, парламентам і Канстытуцыйным судом).

Акрамя старшыні Канстытуцыйнага суда ў састаў Канстытуцыйнага суда ўваходзяць 12 суддзяў, не маладзей за 30 гадоў і не старэй за 55 гадоў, 6 суддзяў з 12 выбіраюцца сенатам і 6 суддзяў прызначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, тэрмінам на 5 гадоў з ліку высокакваліфікаваных спецыялістаў, якія маюць вучоную ступень».

І далей па праекту словы «Гранічны ўзрост членаў Канстытуцыйнага суда — 75 гадоў» зняць. Гэта абсурд. Трэба тады з імі заключаць кантракт у адпаведнасці з дзеючымі ўказамі Прэзідэнта і пастановамі ўрада — як з асобамі, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту (мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 гадоў). Не будзе ж член Канстытуцыйнага суда працаваць, адмаўляючыся ад пенсіі, і якая можа быць работа ў 65—75 гадоў?! Час ужо і адпачыць. Калі сумленна працаваць, г. зн. «гарэць» на працы, то пасля 55 і 60 гадоў трэба ісці на заслужаны адпачынак. Маладосць і старасць для чалавека, які займае кіруючую высокую пасаду, абавязкова павінна быць абмежавана ў Асноўным законе.

**Міхаіл ШЛЫК, ветэран працы.**
г. Мінск.

***Аляксей ДУДАРАЎ:***

## «Замест таго, каб займацца гаспадаркай, у нас працягваюцца палітычныя гульні»

***Аб маючым адбыцца лістападаўскім рэферэндуме наш карэспандэнт гутарыць з заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі, вядомым драматургам Аляксеем ДУДАРАВЫМ.***

**— На ваш погляд, ці сапраўды цяперашняя, прынятая ў 1994 годзе Канстытуцыя патрабуе сур'ёзных змяненняў і дапаўненняў?**

— Асабіста я перакананы, што па цяперашняй Канстытуцыі мы маглі б жыць, прынамсі, яшчэ не адзін дзесятак гадоў. Магчыма, яна і недасканалая, але асновы дзяржаўнасці, асновы прававой дзяржавы ў ёй закладзены. Калі ж, як зараз любяць гаварыць, жыццё пачало ўносіць нейкія карэктывы ва ўзаемаадносіны паміж уладай і грамадствам, уладай і асобай, то калі ласка. Але няхай усё будзе па закону. У нас шмат хто валодае заканадаўчай ініцыятывай. Таму няхай уносяцца прапановы аб змяненнях і дапаўненнях тых ці іншых артыкулаў Канстытуцыі і няхай Вярхоўны Савет іх разглядае, абагульняе прапанаванае, падводзіць прававую базу, абмяркоўвае і прымае рашэнні. Гэта кампетэнцыя парламента.

**— Але сёння на гэты конт у адрас Вярхоўнага Савета нярэдка можна пачуць наступнае: якое, маўляў, ён мае права?**

— Сапраўды, у бок Вярхоўнага Савета камянёў ляціць шмат. Нехта незадаволены, што ў ім шмат камуністаў, нехта — што ў ім шмат прадпрымальнікаў. Але не будзем забывацца на галоўнае — Вярхоўны Савет абіраўся народам. І з народа выбіраліся больш адукаваныя, найбольш юрыдычна падрыхтаваныя, нарэшце, найбольш аўтарытэтныя і вопытныя людзі. Таму падстаў, каб не прызнаваць правы Вярхоўнага Савета, проста няма.

Нам зараз прапануецца выносіць праекты Канстытуцыі на ўсенароднае абмеркаванне, каб «просты народ» выказаў сваю думку, каб разабраўся сам. Але я больш чым упэўнены, што нічога ён «не разбярэцца». Бо 80 працэнтаў не будзе не толькі разбірацца, але нават і чытаць праект Канстытуцыі.

**— Такім чынам, вы па сутнасці сцвярджаеце, што рэферэндумы ўвогуле непатрэбны? А як у такім разе са старым добрым: голас народа — голас Боскі?**

— Якраз наадварот, я перакананы, што раіцца з народам трэба. Але на ўсенароднае абмеркаванне можна выносіць толькі канкрэтныя пытанні, на якія лёгка адкажа кожны. Напрыклад — ты хочаш, каб кіраўніка твайго горада ці пасёлка прызначаў Прэзідэнт, альбо ты хочаш абіраць яго сам? Тут, здаецца, усё проста і зразумела, тут нейкай спецыяльнай юрыдычнай падрыхтоўкі не трэба.

Іншая справа — Канстытуцыя, вельмі складаны юрыдычны дакумент. Я не лічу сябе заўзятым невукам, але багата чаго асабіста я не разумею. У такім разе, што казаць аб маёй 80-гадовай маці, якая жыве на вёсцы? Нават у лепшым выпадку, калі ёй прачытаюць праект Канстытуцыі, то абавязкова адразу ж патлумачаць, як трэба галасаваць. І калі ўжо начальства сказала, што гэта добра, значыць так яно і ёсць, таму трэба галасаваць «за». А не — не дадуць каня. Вось і ўвесь «рэферэндум».

**— Вы ўжо выказвалі думку, што рабіць змены ў цяперашняй Канстытуцыі не надта слушна. Але пагадзіцеся, з'яўленне адразу двух яе новых праектаў — рэч далёка не выпадковая...**

— Што крывіць душой, усе мы ведаем, чаму з'явіўся варыянт Канстытуцыі Прэзідэнта і чаму потым з'явіўся варыянт аграрыяў і камуністаў. Але, паўтаруся, калі ўжо так неабходны гэтыя змены, давайце будзем рабіць іх законна, праз Вярхоўны Савет. Тым больш што зараз у ім няма ніводнага «бэнээфаўца», ніводнага так званага «радыкала», таму там Прэзідэнту ёсць з кім дамовіцца. Калі гэта, вядома, будзе слушным. Але калі, як зараз, ідзе размова аб фактычна неабмежаванай уладзе, знайсці паразуменне ў Вярхоўным Савеце будзе цяжка. Тады пачынаюцца апеляцыі да народа... З іншага боку, незразумелая таксама пазіцыя аграрыяў і камуністаў, якія вынеслі на рэферэндум уласны праект Канстытуцыі проста як альтэрнатыўны прэзідэнцкаму. Уяўляю сабе, як будзе таму ж чалавеку на вёсцы, які падтрымлівае і Прэзідэнта, і камуністаў.

**— Апошнім часам усё часцей можна пачуць размовы аб так званым «нулявым варыянце», калі Прэзідэнт адмовіцца ад сваёй ідэі змянення Канстытуцыі, а аграрыі і камуністы — ад сваёй. Падобнае развіццё падзей рэальнае?**

— Калі б так адбылося, гэта было б найлепшае выйсце з сітуацыі. Ведаеце, у мяне такое адчуванне, што ў нас замест таго, каб займацца гаспадаркай, рэфарміраваць эканоміку, наладжваць нармальнае жыццё, ужо трэці год працягваюцца палітычныя гульні. Спачатку чакалі рублёвай зоны і таннай нафты (аж пакуль не паклалі на лапаткі ўсю вытворчасць), потым то выбіралі Прэзідэнта, то праводзілі адзін рэферэндум, то выбіралі Вярхоўны Савет, зараз займаемся яшчэ адным рэферэндумам. Ды яшчэ сцвярджаем пры гэтым, што ён нічога не будзе каштаваць народу. Але зноў-такі: пакуль падрыхтуемся да рэферэндуму, гаспадарка краіны будзе выбіта з нармальнага рэжыму работы прынамсі месяцы на два.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ЗАКАНАДАЎЧУЮ МІСІЮ МЫ ДАРУЧЫЛІ ПАРЛАМЕНТУ

**Хочацца выказаць некалькі думак адносна рэферэндуму і праектаў Канстытуцыі. І перш за ўсё тое, што ніякіх рэферэндумаў не трэба было ініцыіраваць.**

Няўжо ніхто не бачыць злачынных вынікаў рэферэндуму 95 года: раскол грамадства, адмаўленне ад беларускіх святыняў на беларускай зямлі, забарона патрыятычных беларускіх песень і г. д.

Успомнім: «І дзіўная гэта звычка ў людзей спасылацца на народ там, дзе яно саўсім недарэчы. І ва ўсіх іншых пытаннях мы звяртаемся да знаўцаў і спецыялістаў, а вот пры дзяржаўным адбудаванні здавальняемся думкамі такіх майстроў, як цёмны, некультурны народ, каторы ў халерны год забіваў дактароў, а ў час рэакцыі лавіў ды выдаваў царскай паліцыі рэвалюцыянераў, паламаўшы ім рэбры... Народ — добрая рэч, але яму трэба расказаць, растлумачыць, яго трэба спачатку асвяціць, навучыць, а ўжо потым клікаць да сябе на параду...» (Я. Лёсік. «Нашы патрэбы». — Творы. Мн., 1994, с. 206). Народ, вядома, змяніўся, але не вельмі... Да таго ж мы абралі парламент, якому даручылі заканадаўчую місію.

У прэзідэнцкім праекце Канстытуцыі не можа не ўразіць канстытуцыйнае замацаванне дыктатуры, якая ўжо набірае разгон у краіне. У праекце ад камуністаў і аграрыяў не задавальняе паніжэнне статусу беларускай мовы.

Такім чынам, мяркую, трэба пакінуць Канстытуцыю 1994 г., стварыўшы, пры патрэбе, пагаджальную камісію. Не пытайцеся ў нас, ці можна прадаваць зямлю без абмежаванняў. Адказ павінны даць спецыялісты ў галіне дзяржаўнага будаўніцтва, эканамісты. Прэзідэнт не павінен парушаць Канстытуцыю і прызначаць рэферэндум на 7 лістапада.

**Г. ВЕШПІАРТ.**
г. Мінск.



## Спачатку, механізатар, адпрацуй чвэрць стагоддзя...

***Апошнія дваццаць гадоў я працую трактарыстам у сельскай мясцовасці. Хацелася б ведаць, ці маю я права на льготную пенсію?***

**В. БОРЫС,**
*Навагрудскі раён.*

Адказ, які даслала па просьбе рэдакцыі **начальнік Галоўнага ўпраўлення эканомікі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Т. ДЗЕГЦЯРОВА,** на наш погляд, зацікавіць і многіх іншых сельскіх механізатараў. А яна, у прыватнасці, паведаміла:

— У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» (арт. 12 «д») ільготная пенсія (мужчынам пасля дасягнення 55 гадоў) назначаецца трактарыстам-машыністам, якія былі непасрэдна заняты ў вытворчасці прадукцыі ў калгасах, саўгасах і іншых прадпрыемствах сельскай гаспадаркі. Праўда, пры агульным стажы работы 25 гадоў, з якіх не менш як 20 гадоў трэба было адпрацаваць на вёсцы.

У дадзеным выпадку льготная пенсія не можа быць прызначана: у працоўны стаж уключаецца толькі час фактычнай работы ў якасці трактарыста-машыніста, а ў аўтара пытання такой працяглай і пастаяннай працы, на жаль, няма.



## Спецыяльная адукацыя для дзяцей з аслабленым зрокам

***Маёй дачцэ 8 гадоў, яна выдатна малюе, мае добры голас і музычны слых. Але, на жаль, у яе вельмі дрэнны зрок. Падкажыце, калі ласка, дзе можна атрымаць спецыяльную адукацыю дзецям з аслабленым зрокам.***

**З павагай і падзякай Т. САВІЦКАЯ,**
*Мінскі раён.*

Як патлумачылі нам ва ўпраўленні сацыяльнай абароны дзяцінства, у музычныя, мастацкія і харэаграфічныя вучылішчы і ВНУ дзеці, якія слаба бачаць, паступаюць у агульнай плыні. Інвалідам І і ІІ груп прадастаўляюцца льготы. Акрамя гэтага, пры Педагагічным універсітэце існуе падрыхтоўчы аддзел, які рыхтуе такіх дзяцей да паступлення ў любую ВНУ рэспублікі. Аналагічную падрыхтоўку дае і Рэспубліканскі ліцэй мастацтваў.



## Каб стаць грамадзянінам Беларусі, трэба развітацца з Расіяй

***Я некалі жыў у Беларусі, а затым выехаў за яе межы. Цяпер, калі вярнуўся назад у родныя мясціны, мне не прадастаўляюць беларускага грамадзянства. Чаму?***

**М. ПАМАЗКОЎ,**
*в. Лужок, Кармянскі раён.*

Пасля ўважлівага разгляду пытання сітуацыю растлумачыў **намеснік начальніка ўпраўлення пашпартна-візавай службы МУС Рэспублікі Беларусь В. КАЗЛОЎСКІ:**

— У артыкуле 17.1 Закона «Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь» сказана, што права мець беларускае грамадзянства ў парадку рэгістрацыі маюць асобы, якія пастаянна пражывалі на тэрыторыі Беларусі, але выехалі за яе межы да ўступлення ў сілу гэтага закона (12.11.1991 г.), а таксама іх муж ці жонка і нашчадкі. Зазначым: дзеянне гэтага артыкула распаўсюджваецца на тых, хто мае доказы сваёй прыналежнасці да грамадзянства былога СССР і не мае грамадзянства іншай дзяржавы.

Паколькі вы з'яўляецеся грамадзянінам Расійскай Федэрацыі (а гэта пацвярджаецца пастаяннай прапіскай на яе тэрыторыі на дзень уступлення ў сілу Закона Расійскай Федэрацыі аб грамадзянстве (6.02.1992 г.), то для вырашэння пытання аб набыцці грамадзянства Беларусі вам неабходна прадставіць дакумент расійскага пасольства аб пазбаўленні вас грамадзянства Расійскай Федэрацыі.

Для даведкі: пасольства Расійскай Федэрацыі знаходзіцца ў г. Мінску па адрасу: вул. Старавіленская, 48, тэл. 2-50-36-65, 2-50-36-66.



## Аспрэчанне бацькоўства

***Я хачу аспрэчыць факт бацькоўства ў сувязі з тым, што доўгі час знаходзіўся ў камандзіроўцы і не мог быць бацькам дзіцяці, якое нарадзілася ў гэты час. Якія дакументы мне неабходна прадставіць для гэтага?***

**К.,** *г. Гродна.*

Для аспрэчання бацькоўства неабходна прадставіць наступныя пісьмовыя доказы (частку з іх запатрабуе суд — як, напрыклад, заключэнне экспертызы):

— пасведчанне аб нараджэнні дзіцяці (ці яго копію);

— доказ, што час зачацця дзіцяці адносіцца да перыяду, калі бакі не пражывалі разам (даведкі аб часовым выездзе заяўніка на работу ў іншую мясцовасць, камандзіровачнае пасведчанне, заключэнне экспертызы аб часе зачацця дзіцяці).

Да таго часу пакуль запіс аб бацькоўстве не прызнаны несапраўдным ва ўстаноўленым законам парадку, грамадзяне запісаныя бацькамі дзіцяці, не могуць адмовіцца ад выканання абавязкаў, прадугледжаных Кодэксам аб шлюбе і сям'і РБ.

Пры прызнанні судом запісу аб бацькоўстве несапраўдным адпаведны запіс анулюецца органам ЗАГСа пасля атрымання копіі рашэння суда.



## Хочаце амаладзіцца

***Чула, што ёсць рэцэпт амаладжэння на аснове часнаку і спірту. Ці не магла б газета апублікаваць яго. Многім, напэўна, гэта будзе цікава.***

**ДРОЗД С. І.,** *Жодзіна.*

Гэты рэцэпт амаладжэння быў знойдзены ў адным з манастыроў Тыбета. Прызначэнне: ачышчэнне арганізма ад тлушчавых і вапнавых адкладанняў, якое рэзка паляпшае абмен рэчываў у арганізме, сасуды робяцца эластычнымі (што папярэджвае стэнакардыю, склероз, утварэнне пухлін). Пры строгім выкананні рэцэпта арганізм амалоджваецца.

Трэба прамыць і пачысціць 350 грамаў часнаку. Дробна парэзаць і працерці яго ў сасудзе драўлянай лыжкай. 200 грамаў гэтай масы, дзе больш соку, змясціць у шкляны сасуд, дабавіўшы туды 200 грамаў 96-працэнтнага спірту. Сасуд шчыльна закрыць і на працягу 10 дзён вытрымліваць у цёмным халодным месцы. Утвораную масу працадзіць, адціснуць. Лячэбную вадкасць вытрымліваць 2-3 дні.

Прымяненне: у чвэрць шклянкі халоднага малака дабаўляецца некалькі кропель прыгатаванай вадкасці, выпіваецца за 15—20 хвілін да яды.

| *Дзень прыёму* | *Снеданне* | *Абед* | *Вячэра* |
|---|---|---|---|
| 1-ы дзень | 1 кропля | 2 кроплі | 3 кроплі |
| 2-гі дзень | 4 кроплі | 5 кропель | 6 кропель |
| 3-ці дзень | 7 кропель | 8 кропель | 9 кропель |
| 4-ы дзень | 10 кропель | 11 кропель | 12 кропель |
| 5-ы дзень | 13 кропель | 14 кропель | 15 кропель |
| 6-ы дзень | 15 кропель | 14 кропель | 13 кропель |
| 7-ы дзень | 12 кропель | 11 кропель | 10 кропель |
| 8-ы дзень | 9 кропель | 8 кропель | 7 кропель |
| 9-ы дзень | 6 кропель | 5 кропель | 4 кроплі |
| 10-ы дзень | 3 кроплі | 2 кроплі | 1 кропля |
| 11-ы дзень | 25 кропель | 25 кропель | 25 кропель |

Паўторны курс не раней чым праз 6 гадоў.



## Першая беларуская газета падабалася не ўсім...

***«Звязда» сёлета ўжо пісала, што споўнілася 220 гадоў з часу выхаду першага на Беларусі друкаванага перыядычнага выдання — «Газеты Гродзенскай». Ці не маглі б вы расказаць аб ёй больш падрабязна?***

**Пётр КАРАВАЙЧЫК,** *г. Слонім.*

Першы нумар гэтай газеты выйшаў у свет у канцы мая 1776 года. І гэта сапраўды была першая газета на Беларусі і трэцяе перыядычнае выданне на тэрыторыі нашай тагачаснай дзяржавы Рэчы Паспалітай (пасля варшаўскай і віленскай газет). «Бацькам» газеты можна смела лічыць гродзенскага старасту Антоні Тызенгаўза, чалавека высокаадукаванага, які праводзіў у горадзе эканамічныя рэформы. «Газета Гродзенская» выходзіла штотыднёва, а на яе старонках быў прадстаўлены самы шырокі спектр інфармацыі. Жыхары горада маглі прачытаць аб перыпетыях у вялікай палітыцы ВКЛ і Рэчы Паспалітай, прыдворную хроніку, аб узаемаадносінах Аўстрыі і Прусіі, аб падзеях у суседняй Расіі, аб вайне за незалежнасць Злучаных Штатаў, аб'явы, рэкламу і г. д.

Трэба адзначыць, што часам публікацыі «Газеты Гродзенскай» ішлі ўразрэз з афіцыйнай палітыкай Рэчы Паспалітай, што выклікала незадаволенасць караля Станіслава Аўгуста. Кароль з гэтай нагоды некалькі разоў пісаў Тызенгаўзу, ён парэкамендаваў нават вызначыць чалавека, які адказваў бы за кожны нумар і перад друкаваннем паказваў бы яго старасту. Рэдагавалі газету работнікі... пошты. Яны здавалі нумар у друкарню (а загадваў ёй ксёндз), перад тым як газета друкавалася, матэрыялы папярэдне праглядаў сакратар Тызенгаўза Сухадолец, і толькі пасля гэтага даваўся дазвол на друкаванне. Выдавалася газета на працягу сямі гадоў.



## Смяротнікі чакаюць рэферэндум

***Як вядома, адно з пытанняў, якое выносіцца на рэспубліканскі рэферэндум у лістападзе, закранае вострую праблему адмены смяротнага пакарання. Ці азначае гэта, што зараз выкананне смяротных прысудаў прыпыняецца?***

**Міхаіл ШАРЭНКА,** *г. Мінск.*

Наконт гэтага турбавацца не трэба. Як паведамілі нам у Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, ніхто спецыяльна адцягваць выкананне прыгавораў, чакаючы вынікаў рэферэндуму, не збіраецца. У мінскім следчым ізалятары № 1 зараз, напрыклад, утрымліваюцца 42 прыгавораныя да вышэйшай меры пакарання, у асноўным за забойствы з асаблівай жорсткасцю. Як сведчаць апытанні грамадскай думкі, пераважная колькасць насельніцтва Беларусі выступае супраць адмены смяротнага пакарання, таму няцяжка прадказаць вынікі галасавання. Відаць, улічваючы гэта, усе 42 прыгавораныя падалі прашэнні аб памілаванні Прэзідэнту. Кіраўнік дзяржавы, як вядома, да гэтага часу не адмяніў ніводнага смяротнага прысуду.



## З водпуску трэба вяртацца на работу, а не рабіць працяглы прагул

***Пасля вяртання з водпуску мяне звольнілі з работы. Чаму і за што?***

**І. ЛЯХ,** *пас. Ратамка, Мінскі раён.*

Паважаны Іван Рыгоравіч, як высветлілася, пакаралі вас правільна і справядліва. Вось што адказаў рэдакцыі дырэктар 708-га Цэнтральнага завода палігоннага і вучэбнага абсталявання В. Ламцоў:

— Як вынікае з наяўных матэрыялаў, І. Лях у перыяд з 01.02.96 г. па 29.02.96 г. у сувязі з адсутнасцю работы знаходзіўся ў водпуску з захаваннем 2/3 сярэдняга заробку.

Пасля водпуску 1 сакавіка ён на работу не выйшаў без уважлівых прычын, а, з'явіўшыся на заводзе толькі 20.03.96 г., ад напісання тлумачальнай за зробленыя прагулы адмовіўся. Адмовіўся ён ад тлумачэнняў таксама і на пасяджэнні цэхкома, у сувязі з чым цэхком даў згоду на звальненне. Загадам ад 27.03.96 г. № 11 гэты работнік быў звольнены з 1 сакавіка за працяглы прагул згодна з арт. 33 ч. 4 КЗаП РБ.



## Небяспечная прыгажосць

***Усе заўважылі, як беларускія прылаўкі прыметна папрыгажэлі. Касметычная прадукцыя самых розных замежных фірмаў выдатна ўпісалася ў паліцы крамаў. Ды і не толькі — касметыку можна набыць на рынку, у кіёсках, з рук, калі прама да вас на працу прыходзіць чалавек і запэўнівае ў якасці і адметным эфекце яго тавару. Якую праверку праходзіць уся касметычная прадукцыя, што трапляе на Беларусь?***

**Наталля ЦЯРПАК,** *г. Бяроза.*

Адказвае **загадчык аддзела рэгламентацыі Міністэрства аховы здароўя Міхаіл Рыгоравіч Серафімовіч.**

— Уся парфумна-касметычная прадукцыя падлягае гігіенічнай рэгістрацыі ў Міністэрстве аховы здароўя. Наша задача — сказаць, ці можа яна быць на рынку Беларусі. Спачатку правяраецца, ці той тавар гандляры збіраюцца прадаваць, за які яго выдаюць. Яны прадстаўляюць усе дакументы на яго і самі ўсё павінны ведаць пра свой тавар. Дарэчы, штрых-код таксама можна падрабіць. Таму мы патрабуем сертыфікат аб вытворчасці тавару з фірмы, якая яго выпусціла. Далей глядзім увозімую партыю і з яе выбіраем пробы для лабараторнага даследавання. Лабараторыя дае заключэнне, што касметыка гэтай фірмы бясшкодная для здароўя.

Бясшкоднасць і якасць, як вядома — розныя рэчы. Таму вызначыць, наколькі эфектыўны крэм, ці праўду кажа пра яго рэклама, вы адчуеце толькі паспрабаваўшы. А ў міністэрстве аховы здароўя лічаць, што на Беларусі зараз створана вельмі добрая нарматыўная база, якая адпавядае еўрапейскім стандартам.

# КАРОТКАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

## аб правядзенні адкрытай падпіскі на акцыі сёмага выпуску АКБ «Беларускі народны банк»

**ПОЎНАЯ НАЗВА:**

— на рускай мове — Акционерный коммерческий банк «Белорусский народный банк»;

— на беларускай мове — Акцыянерны камерцыйны банк «Беларускі народны банк».

**СКАРОЧАНАЯ НАЗВА** — АКБ «БНБ» (у далейшым — Банк)

Зарэгістраваны ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь 16 красавіка 1992 г., рэгістрацыйны нумар — 27.

**Юрыдычны адрас**: 220004, г. Мінск, вул. Танкавая, 1. Тэл. (0172) 23-86-10, факс (0172) 23-84-57.

**Асноўнымі мэтамі** дзейнасці Банка з'яўляюцца:

— атрыманне максімальнага памеру прыбытку ад выкарыстання ўласных і прыцягнутых сродкаў з мэтай забеспячэння выплаты дывідэндаў акцыянерам Банка і развіцця банкаўскай справы;

— развіццё таварна-грашовых і рыначных адносінаў шляхам прадастаўлення кліентам Банка ўсяго комплексу банкаўскіх паслуг у парадку, устаноўленым заканадаўствам РБ;

— актыўнае садзейнічанне навукова-тэхнічнаму прагрэсу, развіццю прыватнага прадпрымальніцтва шляхам ажыццяўлення банкаўскага крэдытавання;

— садзейнічанне развіццю сацыяльнай сферы шляхам фінансавання і крэдытавання нетрадыцыйных аб'ектаў у сферы культуры, экалогіі і іншых галінах.

**Прадметам дзейнасці** Банка з'яўляецца комплекс банкаўскіх і іншых камерцыйных паслуг, аказваемых Банкам юрыдычным і фізічным асобам у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

***Асноўныя паказчыкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці Банка такія:***

**Памер асноўных сродкаў:**
**— 1995 г. — 392.009.825 руб.;**
**— 1996 г. — 2.550.219.348 руб.**

**Аб'ём капітальных укладанняў:**
**— 1995 г. — 392.009.825 руб.;**
**— 1996 г. — 2.550.219.348 руб.**

**Памер чыстага прыбытку:**
**— на 01.01.95 г. — 2865,1 млн. руб.;**
**— на 01.01.96г. — 800 млн. руб.;**
**— на 01.06.96 г. — 1412 млн. руб.**

**Сума, якая накіроўваецца на выплату дывідэндаў:**
**— 1995 г. — 654.924.000 руб.**

**Даходнасць на адну акцыю:**
**— 1995 г. — 670 руб.**

**Памер зарэгістраванага статутнага фонду** — 30.020.240.000 (трыццаць мільярдаў дваццаць мільёнаў двесце сорак тысяч) рублёў.

***Звесткі аб папярэдніх выпусках акцый:***

**Першая падпіска:**
**— сума эмісіі — 25.000.000 рублёў;**
**— віды акцый — простыя імянныя;**
**— намінальны кошт — 1000 руб.;**
**— колькасць — 25.000 шт.**

**Другая падпіска:**
**— сума эмісіі — 78.500.000 рублёў;**
**— віды акцый — простыя імянныя;**
**— намінальны кошт — 1000 руб.;**
**— колькасць — 78.500 шт.**

**Трэцяя падпіска:**
**— сума эмісіі — 26.500.000 рублёў;**
**віды акцый — простыя імянныя;**
**— намінальны кошт — 1000 руб.;**
**— колькасць — 26.500 шт.**

**Чацвёртая падпіска:**
**— сума эмісіі — 370.000.000 рублёў;**
**— віды акцый — простыя імянныя;**
**— намінальны кошт — 1000 руб.;**
**— колькасць — 370.000 шт.**

**Пятая падпіска:**
**— сума эмісіі — 4.770.160.000 рублёў;**
**— віды акцый — простыя імянныя;**
**— намінальны кошт — 10.000 руб.;**
**— колькасць — 477.016 шт.**

**Шостая падпіска**
**— сума эмісіі — 20.250.080.000 рублёў**
**— віды акцый — простыя імянныя;**
**— намінальны кошт — 10.000;**
**— колькасць — 2.025.008 шт.**

1 чэрвеня 1995 г. агульным сходам акцыянераў АКБ «БНБ» было прынята рашэнне аб павелічэнні намінальнага кошту акцый АКБ «БНБ» 1—4 выпускаў з 1000 руб. да 10.000 руб.

**Плануемы аб'ём эмісіі** акцый Банка сёмага выпуску складае 10.000.000.000 (дзесяць мільярдаў) рублёў.

**Памер аб'яўленага статутнага фонду** складае 40.020.240.000 (сорак мільярдаў дваццаць мільёнаў дзвесце сорак тысяч) рублёў.

Выпускаюцца простыя імянныя акцыі колькасцю 1.000.000 (адзін мільён) штук намінальным коштам 10.000 (дзесяць тысяч) рублёў.

Распаўсюджванне акцый будзе праводзіцца шляхам адкрытай падпіскі штодзённа з 9.00 да 17.00, акрамя суботы і нядзелі, па адрасах: г. Мінск, вул. Першамайская, 12; зав. Дамашэўскі, 12 а.

Пачатак падпіскі на акцыі — дата публікацыі ў сродках масавай інфармацыі зарэгістраванай Інспекцыяй па каштоўных паперах Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь кароткай інфармацыі аб правядзенні адкрытай падпіскі на акцыі Банка сёмага выпуску, заканчэнне — праз месяц з дня публікацыі кароткай інфармацыі.

Аплата за акцыі праводзіцца ў беларускіх рублях на рахунак № 6661000010013 у АКБ «БНБ», код 765, у свабодна канверсоўнай валюце — на рахункі № 1701-792017-001 — для USD, № 1701-792017-006 — для DM у Акцыянерным камерцыйным банку знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь, код 226.

У выпадку, калі сума падпіскі на акцыі перавысіць суму, аб'яўленую ў праспекце эмісіі, статутны фонд Банка павялічваецца на фактычна сабраныя ў ходзе падпіскі грашовыя сродкі і зацвярджаецца агульным сходам акцыянераў.

У выпадку недасягнення падпіскай узроўню плануемай эмісіі, Статутны фонд Банка павялічваецца на велічыню, фактычна атрыманую пры падпісцы, і зацвярджаецца агульным сходам акцыянераў.

У лік аплаты акцый могуць быць накіраваны толькі ўласныя сродкі інвестара. Прыцягнутыя і пазычаныя сродкі, крэдыты не могуць быць накіраваны на папаўненне статутнага фонду Банка. Падпісчыкі абавязаны пацвердзіць наяўнасць, аб'ём і законнасць паходжання сродкаў, якія ўносяцца ў статутны фонд Банка і падлягаюць дэклараванню. Невыкананне гэтых умоў служыць падставай для адмовы ў падпісцы.

Сродкі, якія паступаюць у лік папаўнення статутнага фонду, да моманту падачы ўстаноўчых дакументаў для перарэгістрацыі статута Банка, звязанага з павелічэннем яго статутнага фонду, залічваюцца на часовы накапляльны рахунак, адкрыты ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь.

Пры адмове ад выпуску акцый, прынятай агульным сходам акцыянераў, сродкі, атрыманыя ў лік аплаты акцый па падпісцы, вяртаюцца інвестарам на працягу месяца з дня падачы заявы.

Сродкі, атрыманыя ў выніку падпіскі на акцыі, будуць выкарыстаны ў мэтах атрымання максімальнага памеру прыбытку, развіцця таварна-грашовых і рыначных адносінаў, садзейнічання развіццю сацыяльнай сферы Банка.

**Дывідэнды** па акцыях выплачваюцца штоквартальна ў памеры, які ўстанаўлівае Савет Банка.

За мінулы квартал дывідэнды выплачваюцца з першага чысла другога месяца наступнага квартала.

Налічэнне дывідэндаў ажыццяўляецца ў адпаведнасці са спісам акцыянераў на дату правядзення дывідэнднага перапісу. Дывідэнд не выплачваецца па акцыях, якія не былі выпушчаны ў абарачэнне, або былі вернуты Банку.

Дывідэнды налічваюцца з моманту дзяржаўнай рэгістрацыі акцый.

Дывідэнды выплачваюцца наяўнымі грашыма, пералічваюцца на асабісты рахунак ці паштовым пераводам на дом па заяве — для акцыянераў фізічных асоб, пералічваюцца на разліковы рахунак — для акцыянераў юрыдычных асоб.

**Больш падрабязна азнаёміцца з умовамі падпіскі (праспектам эмісіі) можна штодзённа з 9.00 да 17.00; акрамя суботы і нядзелі, па адрасах: г. Мінск, вул. Першамайская, 12; зав. Дамашэўскі; 12а, па тэл. 227-12-08.**

**Старшыня Праўлення А. С. ТАРАТУХІН**
**Галоўны бухгалтар І. Г. СЦЕЦКАЯ.**

# ЧАЛАВЕК НА ПРЫСТУПКАХ. МІРАЖ ЦІ ГРОЗНЫ НАПАМІН?



Фота Уладзіміра ШЛАПАКА.

**Жабрацтва... Карані гэтай сацыяльнай з'явы хаваюцца ў глыбіні вякоў. Як сцвярджаюць класікі, менавіта тады, калі з'явілася раздзяленне грамадства на багатых і бедных, з'явіліся і людзі з працягнутай рукой. Іх называлі па-рознаму: і дэрвішы, і блазнаватыя, і гультаі. Карацей кажучы, наконт жабрацтва адзінага пункту погляду ніколі не было. І, мабыць, не будзе. Людзі на прыступках падземных пераходаў, з выразнай мімікай, у лахманах найбольш поўна адлюстроўваюць свой час. А да люстэркаў заўсёды адносіны неадназначныя. Таму цікавіцца меркаваннямі звычайных людзей (тых, хто яшчэ не выбіты ўдарамі лёсу з сацыяльнай каляіны) здаецца не вельмі прымальным шляхам. Больш прыдатныя да такога апытання самі жабракі. Яны дзеляцца перыпетыямі свайго жыццёвага шляху звычайна з палёгкай, нібы выдыхаючы брыдоту з глыбіні душы ў паветра. Спадзеючыся на спачуванне і разуменне...**

## Гісторыя №...

Аднойчы маім суразмоўцам стаў Дзед (так ён сябе называе), чалавек, які страціў імя, прозвішча, забыўся пра свае так званыя «пашпартныя даныя», але цвёрда памятае ўсе радасці і турботы свайго доўгага блукання па жыцці. Менавіта блукання. Дзед перажыў Вялікую Айчынную, бегаючы з маці ад немцаў у лес. З тых часоў засталося пачуццё жаху перад вайной і вайскоўцамі наогул. Нават перад сваімі, савецкімі. Можа гэта і сыграла сваю ролю, бо, калі прыйшла пара надзяваць пагоны і прымаць прысягу на вернасць Радзіме, Дзед выбраў замест цеснага салдацкага строю турэмныя краты. Яго, як «адказніка» асудзілі на тры гады пазбаўлення волі. Так аказаўся ледзь не «палітычным» — якраз быў час хрушчоўскай «адлігі», з турмаў выйшлі амаль усе вязні сталінскага часу, і мой суразмоўца апынуўся ў адной кампаніі з рабаўнікамі і забойцамі. Пасівелы жабрак і зараз лічыць, што тады ён зрабіў правільна, у адпаведнасці са сваімі прынцыпамі, не адступіўшы ні на ёту. Я, вядома, ніколькі не імкнуся апраўдаць ці даць нейкую ацэнку гэтаму ўчынку — не пабыўшы ў тых умовах і ніколі не сустрэўшы грозны позірк дзяржаўнай сістэмы так блізка, даволі складана гаварыць аб уласных адчуваннях.

Такім чынам будучы мінскі жабрак Дзед апынуўся ў Чыцінскай вобласці, у адной з сібірскіх турмаў. З усмешкай успамінае ён зараз пра юнацкую «загартоўку»: узімку маразы, летам машкара. Так што цяперашнія перашкоды здаюцца яму дзіцячымі перад перажытымі сібірскімі. Чым займаліся? Ды як звычайна — «пілавалі лес, тайга, ведаеце, цудоўная рэч, вялікая, амаль неабсяжная прастора для прымянення працы зняволеных». Дзед успамінаў, што пасля чытаў недзе пра той лес, які яны сплаўлялі па рацэ: ніхто яго нікуды не вывозіў, бярвенне набракала ў вадзе і апускалася на дно. Цікавы далейшы шлях спіленых зэкамі дрэў: глыбінным цячэннем яны адносіліся праз Ледавіты акіян прама да берагоў Фінляндыі. Там яго збіралі, сушылі, а потым — ну, мы ўсе добра ведаем фінскую мэблю з кедра...

У турме Дзед паступова губляў веру ў людзей: родныя не прыслалі юнаку ні адзінай паштоўкі. І маці, і бацька, і брат ігнаравалі яго.

Трапіўшы ў родны Смаленск пасля трохгадовай «камандзіроўкі» (мова Дзеда насычана такімі вось слоўцамі, таму, каб перадаць непасрэдны каларыт, я знарок захоўваю іх. — **М.Л**.), знайшоў упарты «пацыфіст» вельмі дрэнныя да сябе адносіны не толькі родных, але і ўладаў. Ні працы, ні жылля, ні прапіскі. Рыса была падведзена — так звычайны савецкі грамадзянін ператварыўся ў жабрака Дзеда, не маючага нават імя-прозвішча, прызванага бадзяцца на свеце. Прыпрацоўкамі ў маладосці яшчэ займаўся, калі была такая магчымасць. Таму на месцы сядзець не прыходзілася.

## Геаграфія

Са Смаленска пераехаў у Бранск, там на нейкі час уладкаваўся на завод (пакуль не прыйшлі дакументы). Гэты горад стары ўспамінае як самы светлы перыяд свайго жыцця — цэлы месяц, а можа крыху больш ён вучыўся такарнай справе, тачыў нейкія балванкі, атрымаў нават заробак. Пасля бясплатнага турэмнага рабства ён радаваўся грашам як дзіця. Купіў батон, паўкіло доктарскай каўбасы і шклянку таматнага соку. Сядзеў як пан...

Потым, праз нейкі час яго паклікаў да сябе загадчык аддзела кадраў. Пасадзіў на крэсла і, трымаючы ў руках асабовую справу Дзеда, спытаў: «Чаму ты адразу не сказаў нам пра свае антынародныя дзеянні?» Вучань токара бранскага завода зразумеў, што апраўдвацца няма сэнсу. Сабраў свой няхітры багаж, купіў білет на ўсе грошы (хапіла да Астрахані) і паехаў. Колы цягніка, успамінае ён, увесь час наганялі слёзы, у галаве стаяў іншы маршрут, калі з маскоўскага дыспансера ён пачаў вандроўку ў вагоне з кратамі. Якраз была такая ж пара — канец лета. Цёпла, усе людзі ходзяць шчаслівыя, нешта шчабечуць адзін аднаму, а табе крычаць: «Рукі за спіну!» Уначы Дзеду здавалася, быццам канваіры, стукаючы прыкладам у сцяну, крычалі пра пачатак працы. Апаноўвалі эпізоды лагернага жыцця.

У Астрахані ён знаходзіўся, пакуль была магчымасць нешта зарабляць на пагрузцы ў порце. Жыў пад старой лодкай, харчаваўся чым прыйдзецца. «Купаўся ў Каспіі, — раптам усміхнуўся Дзед, — чамусьці ўвесь час успамінаю лепшае». (Можа таму, што яго было вельмі-вельмі няшмат? — **М.Л.**). У моры, адзінокі, перабіраў ён па хвілінах прайшоўшы дзень, ачышчаўся. Астраханскія ўлады аказаліся такімі ж чэрствымі і бяздушнымі — усюды крывыя ўсмешкі, у лепшым выпадку стрыманае «не».

Гур'еў, Цалкар, Джэзказган, Караганда — шлях Дзеда па краіне нагадваў маршрут геаграфічнай экспедыцыі, з адрозненнем толькі ў адным — у знаку. Географы працавалі ў дзяржаве, а ён аказаўся выкінутым за борт, адрынутым, забытым.

Жабрацтва пачалося ў маленькім грузінскім гарадку Лагадэхі (можа я і памыляюся, прыводзячы назвы гарадоў са слоў жабрака. — **М.Л.**). Тады ён упершыню сеў ля вакзала з пакамечанай кепкай, знешні выгляд якраз адпавядаў: лахманы — усё што засталося ад адзення. Толькі спачатку вочы апускаў, было брыдка. Давалі ахвотна, нешта было на твары (гэта бачна і зараз — **М.Л.**) ад сапраўднага болю, які жыў і ў ягоным сэрцы. Так працягвалася тыдзень, потым забралі ў міліцэйскі ўчастак (як дазнаўся пазней, «здалі» канкурэнты: ішла барацьба за месца). Пасля высвятлення асобы пасадзілі на пятнаццаць сутак. Потым адправілі за мяжу горада.

Пачаліся блуканні па Каўказу. Тут хоць крыху цяплей, і людзі больш заможныя. Хапала і тых, хто думаў як ён: бамжы і жабракі літаральна апанавалі паўднёвыя рэгіёны. У сутычках з «калегамі» Дзед вучыўся сваёй нялёгкай «прафесіі».

## Асновы майстэрства

Аказваецца, каб быць жабраком, прафесіянальным жабраком, трэба засвоіць усе іх правілы, своеасаблівыя хітрыкі, якія дазваляюць выцягнуць у вас з кішэні пэўную суму грошай. Для гэтага, па словах Дзеда, патрабуецца перш за ўсё адзенне: лахманы павінны быць натуральнымі. Гэта спачатку мой суразмоўца не адчуваў патрэбы ў пераапрананні, таму што бруднае паліто і збітыя боты складалі ўвесь ягоны гардэроб. Пасля, калі капейкі пасыпаліся ў кепку, узніклі праблемы — ёсць грошы — значыць трэба і адпаведна выглядаць. Такі лозунг прыдатны для ўсіх, акрамя жабракоў. У іх — усё наадварот: існуе так званая спецадзенне (роба, як яны яе называюць), здатнае выклікаць у прахожых спачуванне і, адпаведна, неабходнасць падзяліцца (грашыма, прадуктамі, адзеннем і гэтак далей). Некаторыя, лічыць Дзед, занадта шмат чапляюць на сябе ўсялякай лухты — ажно сорамна становіцца нават такім жа жабракам. Калі выйшаў на прыступкі, то трэба ж і меру ведаць. Так вучылі ў Закаўказзі. Адкуль па волі лёсу, пасля сумна вядомых падзей (спачатку канфлікты, потым сапраўдная вайна), мой суразмоўца рушыў на Украіну, а потым апынуўся ў Беларусі. Тут, яму здаецца, найбольш шчырыя людзі, нават міліцыянеры не так ганяюць.

О, адносіны з супрацоўнікамі органаў унутраных спраў — адна з самых складаных і небяспечных старонак у жабрацкай справе (нават за той час калі я размаўляў з Дзедам, падыходзілі некалькі разоў. — **М.Л.**). Аднак сівога «профі» ўжо так загартавалі жыццёвыя цяжкасці, што ён усё ўспрымае з усмешкай. Ну няхай прагоняць — пройдзе некалькі метраў і зноў сядзе. А калі падкіне крыху «зайцоў», дык і зусім адчэпяцца. Больш складана, калі рэйд арганізаваны, калі «чысцяць» бамжоў. Тады ўжо трэба ўцякаць, бо забяруць для высвятлення асобы. А ў Дзеда акрамя пацёртай паперкі аб вызваленні з чыцінскага астрога нічога няма. Даволі цікавая паперка — без прозвішча, толькі з нумарам асабовай справы і артыкулам, па якім ён асуджаны, літары ледзь праглядваюцца, так што трэба абыходзіцца зноў жа каментарыем Дзеда, жыхара падполля. Так, жыве ён звычайна менавіта ў падвалах, калі-небудзь на гарышчы ці ў каналізацыйных сістэмах. Ды і то хаваецца туды толькі з надыходам халадоў, а так ад'язджае за горад і спіць у лесе. Вогнішча запаліць, вячэру сабе прыгатуе і аб жыцці сваім думае.

«Успамінаю ўсё: Чыту, Каўказ, зрэдку — Смаленск», — уздыхае Дзед. Пісаў ён бацькам, дзяліўся сваімі думкамі, хваляваннямі. Але ніколі не заязджаў: навошта абуджаць у іх пачуццё віны? Стары жабрак і так паставіў мэтай прымушаць людзей да спачування. Іншага шляху ён не ведае, не прыйшлося зведаць. Увесь час жыў у адзіноце, «у гразь не залазіў» (гэта значыць не браў да сябе такую ж жабрачку).

Наогул жа, наконт «таварышаў па спецыяльнасці» гаварыць адмаўляецца. Прызнае, вядома, падзел і сярод жабракоў на багатых і бедных, на тых, хто прырабляе на цвінтары і тых, хто тут вымушаны праводзіць сваё жыццё. «Ведаеш, — сказаў мне нечакана Дзед, — аднойчы я паспрабаваў уявіць сябе звычайным чалавекам, грамадзянінам. І нічога не атрымалася, уцягнуўся ўжо я ў гэту бездань, мой лёс — памерці на прыступках, з працягнутай рукой».

Гады бяруць сваё — ён часта думае аб адыходзе ў іншы свет. Дзеда лічаць мэтрам: хоць той і не «забіваў» нідзе месца — усюды пускаюць. А так паміж жабракамі ідзе сапраўдны бой за лепшае месца. Паспрабуй ты сесці ля ГУМа, Кафедральнага сабора ці на вакзале — адразу ж з'явяцца праблемы ў выглядзе такіх жа абяздоленых (я наўмысна не бяру гэта слова ў двукоссе, таму што такія вось людзі сапраўды абяздоленыя. — **М.Л**.). Грошы жабрацтвам можна зарабляць немалыя, лік ідзе на даволі прыстойныя сумы (два-тры мільёны, а то і болей) — у залежнасці зноў жа ад размеркавання: калі сядзіш дзе-небудзь у Шабанах, дык і не заробіш нічога. А так ну кожны дзесяты, ну дваццаты нешта дасць, хай дзвесце рублёў, за дзень тысяч сто і набяжыць. Увечары тады можна будзе прыстойна перакусіць і нават выпіць.

Галоўнае, не ціснуць занадта на нервы людзей. Бо, як лічыць стары, занадта развялося зараз «цыркачоў» (зноў жа слоўца Дзеда. — **М.Л.**), якія свае балячкі напаказ выстаўляюць, добра яшчэ, калі хоць гісторыю прыстойную прыдумаюць, а то быццам бы ўсе разам у бежанцах апынуліся і ўсім патрэбна медыцынская дапамога.

## Пра Бога

Дзед каля царквы не сядзеў ніколі, лічыць гэта немагчымым. Хоць і зламаўся яго лёс, а ўсё роўна засталася вера ў нейкую вышэйшую сілу, здольную звесці ўсе турботы адзінаю радасцю. Каля царквы атрымліваюцца даволі салідныя барышы, асабліва ў дзень святочны. Ідуць людзі памаліцца, а тут і група жабракоў, як грозны напамін: багата жыві, жабраваць не заракайся. Вось і адкупляюцца ўсе, ператвараючыся ў крыніцу даходаў для бабулек. Тых звычайна выстаўляюць з хаты свае ж родныя, каб не ляжалі на ложках, а зараблялі. А куды ім дзецца, ідуць. Потым дзень пры дні набываюць неабходныя веды, уцягваюцца. Ды і грошы з'яўляюцца, не лічаць сябе залежнымі ад не вельмі ўдзячных сына ці нявесткі. Атрымліваецца, што жабрак ля царквы — найбольш выразная лакмусавая паперка духоўнага стану грамадства.

**Вядома, па-рознаму можна ўспрымаць усё тое, пра што расказаў мне стары мінскі жабрак. У ягонай жыццёвай гісторыі шмат супярэчлівых момантаў — гэта і зразумела: знаходзячыся ў сваёй ролі, ён іграў і перада мной, умела падбіраючы ўсе факты адзін да аднаго. А можа і не? Можа, наадварот, хацеў давесці да чужога разумення нялёгкія малюнкі існавання такіх, як ён, людзей з працягнутай рукой, з жалем у вачах (можа і з фарсавым, але жалем). Бо, трапляючы ў экстрэмальную сітуацыю, кожны чалавек заўсёды вызначае асабіста для сябе далейшыя свае ўчынкі, лінію паводзін.**

Мікалай ЛІТВІНАЎ.

*ПАДЗЯКА ПРАЗ «ЗВЯЗДУ»*

# БОЛЬШ БЫ ТАКІХ ЛЮДЗЕЙ У НАЧАЛЬНІКІ...

**Шмат пабачыў я ў жыцці. І добрага, і дрэннага. Сумленна працаваў, рабіў усё, што прапаноўвалі і загадвалі. Ведаў заўсёды адно: так трэба! А грымнуў час выпрабаванняў — абараняў Радзіму ад ворагаў... І зноў разумеў адно: іншага нам усім і кожнаму пасобку проста не дадзена.**

Ды старасць, як кажуць, не радасць. Адпрацаваў сваё, адслужыў і адваяваў... Настаў час ісці на адпачынак. Пачало здаваць здароўе, усё часцей адчуваю нямогласць. Тое не магу ўжо зрабіць, другое, трэцяе...

Дзякуй Богу, навокал ёсць яшчэ чулыя сэрцам і душой людзі. Адны дапамогуць справай, другія — параяць, куды і да каго звярнуцца... Глядзіш, і жыць яшчэ можна: разумееш, што і ты чагосьці варты, штосьці зрабіў добрае на гэтым свеце.

Адзін з такіх людзей — дырэктар Капыльскага райпалівазбыту Павел Майсеевіч Гушча. Турботная ў яго пасада, спраў і праблем — процьма. Але ж знаходзіць чалавек магчымасць і час, каб выслухаць кожнага, дапамагчы... Каторы ўжо раз без усялякай там валакіты дапамагае і мне, і многім іншым ветэранам і інвалідам раёна набыць паліва, спарадкаваць яго.

Так што не ачарсцвелі яшчэ начальнікі. Пабольш бы такіх людзей, як Павел Майсеевіч Гушча.

**Іван МІСЮЧЭНКА,**
**жыхар вёскі Гарнастайлава Капыльскага раёна, былы ўдзельнік абароны Ленінграда.**

*ПАСЛЯ ВЫСТУПЛЕННЯ ГАЗЕТЫ*

# «МІНА ЗАМАРОЖАНАГА ДЗЕЯННЯ» АБЯСШКОДЖАНА, ВАРТА РАЗМАРОЗІЦЬ І АДНОСІНЫ ПАМІЖ СУСЕДЗЯМІ

**5 ліпеня ў «Звяздзе» быў змешчаны артыкул «Вакол «міны замарожанага дзеяння», напісаны пасля праверкі скаргі інваліда вайны II групы Івана Фёдаравіча Здрока, які жыве ў пасёлку станцыі Талачын. Крыўда на мясцовыя ўлады і сур'ёзны працяглы канфлікт з суседам у пенсіянера ўзніклі з-за вострага дэфіцыту пітной вады.**

*На публікацыю даслаў адказ* ***намеснік старшыні Талачынскага раённага выканаўчага камітэта К. Жукоўскі.*** *Ён, у прыватнасці, паведамляе:*

— Артыкул, апублікаваны ў газеце «Звязда», разгледжаны яшчэ раз з выездам на месца. Асобныя факты, указаныя ў ім, адпавядаюць рэчаіснасці. Адрамантаваны і працуюць як грамадскія, так і ўласная калонка І. Здрока і М. Мацюшэўскага. Выканком адшукаў магчымасць, і РВА ЖКГ пабудавала па вул. Мічурына станцыі Талачын водаправод працягласцю 400 метраў з устаноўкай 4 калонак на суму больш чым 11 мільёнаў рублёў. Праводзіцца рамонт існуючых водаправодных сетак.

Усё гэта, зразумела, добра. А вось з-за капрызлівага характару І. Здрока, як паведамляецца далей, непрыязныя адносіны яго з Мацюшэўскім працягваюцца. Гэта пытанне неаднаразова разглядалася таварыскім судом былога гарадскога Савета, адміністрацыйнай камісіяй райвыканкома. Адказнымі работнікамі райвыканкома праводзіліся неаднаразовыя гутаркі з абодвума, аднак паміж суседзямі і да гэтага часу існуюць непрыязныя, нацягнутыя адносіны.

❑

Даслаў у рэдакцыю ліст і Іван Фёдаравіч Здрок. Ён піша: «Зараз у пошуках вады ніхто нікуды не ездзіць: яна ёсць ва ўсіх калонках. Ад сябе асабіста і ад жыхароў ст. Талачын выказваю сардэчную падзяку за аказаную дапамогу.

Артыкул, які Іван Бралка змясціў у газеце 5 ліпеня 1996 г., дайшоў да свядомасці талачынскіх начальнікаў. Карэспандэнцыя справядлівая і сумленная.

Яшчэ раз вялікі дзякуй за аказаную дапамогу».

У гэтым пісьме аўтар яго ні адзіным словам не папракнуў свайго суседа. Думаецца, яны дарослыя людзі, і ў рэшце рэшт наладзяць паміж сабой належныя адносіны.

# Грамадская і дзяржаўная ўвага да герыятрыі...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

**Алесь Карлюкевіч: — Мы, відаць, і не задумваемся, што трэба звяртаць увагу і на такую мяжу...**

Валерый Гірын: — І дарэмна. У сорак пяць і пасля ўжо варта задумацца і пра змены ў харчаванні, і пра характар, дазіраванне фізічных нагрузак. Словам, 45-гадовы чалавек — гэта ўжо аб'ект увагі герыятраў.

Уладзімір Сыты: — Але і аб'ект увагі з боку кіраўніцтва тых установаў, дзе людзі працуюць.

**Алесь Карлюкевіч: — Давайце вернемся да праграмы. Пажылыя рабочыя ахоплены яе мерапрыемствамі?**

Уладзімір Сыты: — У нашай праграме задачы, вызначаныя на бліжэйшыя гады, скіраваны на тых, каму 60 і болей. Пажылы рабочы — гэта яшчэ толькі нядаўняе наша асэнсаванне.

**Алесь Карлюкевіч: — Хацелася б ведаць, наколькі ж дзяржаўная праграма па праблемах пажылых людзей паспявае за часам?**

Віктар Калбанаў: — Прыгадаю, што праграма прымалася ў 1993 годзе. Ставіліся задачы па ўзаемадзеянню некалькіх ведамстваў па пытаннях пажылых людзей. У тым ліку міністэрстваў аховы працы, сацыяльнай абароны насельніцтва, адукацыі і навукі.

Дзесяць раздзелаў у праграме. Улічаны не толькі клопаты пра здароўе, але і самы шырокі спектр сацыяльных задач. Адметнасць праграмы ў тым, што раздзел «Здароўе пажылых людзей» займае цэнтральнае месца. Другая адметнасць — праграма не мае свайго фінансавання. Для вырашэння тых ці іншых канкрэтных задач тыя ведамствы, што займаюцца праграмай, павінны са сваіх абмежаваных сродкаў выдзяляць яшчэ нешта і непасрэдна на вырашэнне праблем пажылых людзей.

**Алесь Карлюкевіч: — Дзіўна, што сродкі яшчэ знаходзяцца...**

Віктар Калбанаў: — Дык усе ж праграмы не маюць мэтавага фінансавання. Тое ж датычыцца і сацыяльнай абароны інвалідаў.

Валерый Гірын: — Закладваецца ідэя. А фінансы, так ужо атрымліваецца, — справа дзесятая.

Віктар Калбанаў: — Я думаю, гэта не зусім так. Галоўны куратар — Міністэрства аховы здароўя — прагледзела праграму пажылых людзей, вырашыла, што, маўляў, сёе-тое падтрымае, здолее прафінансаваць з уласных сродкаў.

Уладзімір Сыты: — Важны і такі бок справы. Праграма выконвае і задачу прыцягнення ўвагі. Няхай сабе і не ўсё з мяркуемага зроблена. Але ж затое ёсць спадзяванне на будучыню. Магчыма, праз годдва будзе дароблена, даведзена да лагічнага завяршэння.

**Сяргей Протас: — Дык вось, ці будзе вырашаны, даведзены, як вы гаворыце, да лагічнага завяршэння галоўны клопат — стварэнне герыятрычнай службы ў Беларусі?**

Уладзімір Сыты: — Герыятрычная служба ў рэспубліцы ствараецца.

Валерый Гірын: — Можна было б рабіць гэта хутка і мэтанакіравана. Але ж паколькі няма таго злашчаснага фінансавання... У нас, напрыклад, усё робіцца спакваля. Спачатку, летась, створаны быў адзіны герыятрычны цэнтр. Зараз — кафедра герыятрыі ў інстытуце ўдасканалення ўрачоў.

Віктар Калбанаў: — Нашы людзі не падрыхтаваны да таго, што па многіх пазіцыях яны самі павінны несці адказнасць, а не чакаць, пакуль дзяржава прадаставіць дэклараваныя сацыяльныя льготы. Перакананы, што мая пазіцыя выкліча крытыку. І разам з тым не магу пагадзіцца з тым, як лёгка было абвешчана пра льготнае забеспячэнне лекамі. Упэўнены, што ў многіх ветэранаў зараз дома сабраны сапраўдныя аптэчкі нявыкарыстаных лекаў...

**Сяргей Протас: — Але ж і не дапамагчы гэтым людзям нельга...**

— Ёсць іншыя шляхі, чым зацвярджэнне льгот. Па-першае, трэба ўсвядоміць, што бясплатных ільгот не бывае. Яны каштуюць нашмат болей, чым рэабілітацыйныя мерапрыемствы. Можа, лепей выдзяляць датацыю, чым бясплатна выдаваць лекі? Дарэчы, пытанні адраснай фінансавай падтрымкі лячэння пажылых людзей выносіліся на разгляд парламента. Але ж гэта не прайшло. І зараз бюджэтныя сродкі скарачаюцца на рамонт медыцынскіх установаў, на набыццё абсталявання. Усё — на лекі, усё перапампоўваецца ў аптэчную сетку.

**Алесь Карлюкевіч: — Гаворачы пра той ці іншы клопат у справе медыцынскай дапамогі насельніцтву, мы так ці інакш дакранаемся да герыятрыі. Уявім сабе, што сетка ўрачоў-герыятраў, сетка герыятрычных цэнтраў усё ж будзе наладжана. Якія выгоды гэта прынясе грамадству, кожнаму асобна ўзятаму чалавеку?**

Валерый Гірын: — Тут, відавочна, хацелася б звярнуць увагу на ўласны вопыт, на практыку работы нашай 15-й паліклінікі. Фактычна мы працуем ужо ў рамках замкнёнай сістэмы герыятрычнага цэнтра. Усе пажылыя людзі мікрараёна знаходзяцца ў полі нашага зроку. Урачы апярэджваюць запыты людзей, актыўна праводзяць прафілактычную работу, спалучаюць медыцынскую практыку з вырашэннем задач сацыяльнага забеспячэння.

Але ж многія нашы спробы вызначаюцца неэфектыўнасцю з-за агульных заканадаўчых недасканаласцей у сферы медыцынскай практыкі. Працуючы на апярэджанне захворвання, мы трапляем у вельмі асаблівае, больш таго — казытлівае становішча. У стацыянары, ва ўчастковай бальніцы работа ўрача ацэньваецца па колькасці ложка-месцаў. Інтэнсіўнасць лячэння, прафілактычная работа ў разлік не бяруцца. Чаму? Галоўнае ж — вынік, а ён павінен быць роўны здароваму чалавеку. Фінансаванне ж з бюджэту залежыць ад колькасці месцаў у стацыянары, а чаму не ад насельніцтва на тэрыторыі абслугоўвання?

Магчыма, наладжванне герыятрычнай работы ўшчыльную звязана і з сямейным доктарам. Заходні вопыт паказвае, што за кошт яго дзейнасці якраз і дасягаецца эфектыўнасць лячэння.

**Сяргей Протас: — І ўсё ж крышачку больш падрабязна пра ўжо зробленае вашай паліклінікай...**

— З развіццём рыначных адносінаў сталі памяншацца магчымасці па шпіталізацыі хворых. Участковыя бальніцы сталі прад'яўляць патрабаванні па аплаце лячэння накіраваных намі хворых. Трэцяя прычына — арганізацыя Чырвонага Крыжа па зразумелых прычынах стала памяншаць колькасць працуючых у нас медыцынскіх сясцёр. І што мы павінны былі рабіць, каб выжыць? Вось і прыйшлі да высновы: у межах уласных сродкаў і ў межах штатнага раскладу выдзеліць сярэдніх медыцынскіх работнікаў для выканання тых задач, што раней бралі на сябе медсёстры Чырвонага Крыжа, участковыя бальніцы. Узялі спачатку на абслугоўванне каля 130 адзінокіх пажылых людзей, якім патрэбна медыка-сацыяльная дапамога. Дарэчы, для параўнання: у дамах інвалідаў, дамах ветэранаў колькасць персаналу і людзей, якіх ён абслугоўвае, амаль аднолькавая. Мы ж можам працаваць болей эфектыўна, з намнога меншымі затратамі.

**Алесь Карлюкевіч: — А калі б яшчэ спалучыць вашы намаганні з дзейнасцю службы сацыяльнага забеспячэння...**

Валерый Гірын: — Сапраўды, атрымаўся б куды большы эфект. Зараз адна наша медыцынская сястра абслугоўвае 10—15 чалавек. Між іншым, сувязь у нас з сацыяльнымі работнікамі ёсць. Які ж плён? Паменшылася шпіталізацыя пажылых людзей. Мы аказваем дапамогу на месцы. Затое з'явілася магчымасць шпіталізацыі працаздольных людзей па прычыне больш сур'ёзных захворванняў. І трэцяе — мы ў некаторай ступені пераарыентавалі ўчастковыя бальніцы. Яны ў меншай ступені апекуюцца пажылымі людзьмі.

На базе 3-й клінічнай бальніцы Міністэрства аховы здароўя і інстытут удасканалення ўрачоў арганізавалі падрыхтоўку ўрачоў-герыятраў. І зараз наш доктар працуе не проста як тэрапеўт, але і як герыятр, працуе ў звязцы з мясцовымі сацыяльнымі службамі.

**Размова за «круглым сталом», прысвечаная праблемам пажылых людзей, — не апошняя сустрэча «звяздоўцаў» з медыкамі-вучонымі, медыкамі-практыкамі. Спадзяёмся, што нашы чытачы падкажуць і іншыя тэмы для сустрэч за «круглым сталом».**

**Запіс гутаркі за «круглым сталом» зрабілі Алесь КАРЛЮКЕВІЧ і Сяргей ПРОТАС.**

# «НУЛЯВЫХ», АДЗІНКАВЫХ» АБО ІНШЫХ ВАРЫЯНТАЎ БЫЦЬ НЕ МОЖА

**З памочнікам Прэзідэнта Беларусі, членам Мінскага гаркома ПКБ Сяргеем ПОСАХАВЫМ гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса» Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ**

**— Сяргей Аляксеевіч! У сваіх выступленнях кіраўнік дзяржавы неаднаразова выказваў думку аб тым, што крыніцай палітычнай напружанасці ў грамадстве з'яўляюцца кіраўнікі Камуністычнай партыі, якія займаюць высокія пасады ў парламенце. З'яўляючыся не толькі памочнікам Прэзідэнта, але і членам сталічнага гаркома, як вы ацэньваеце сітуацыю, што складваецца ва ўзаемаадносінах парламента і Прэзідэнта?**

— Сапраўды, апошнім часам увага грамадскасці празмерна прыцягнута да дзейнасці асобных кіраўнікоў Камуністычнай партыі.

Важакі камуністаў — В. Новікаў і С. Калякін, дзякуючы падтрымцы з боку партыі і людзей, якія яе падтрымліваюць, прайшлі на выбарах у парламент і занялі там высокія пасады — адпаведна, першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета і члена Прэзідыума — кіраўніка камуністычнай фракцыі. Але вельмі хутка гэтыя спадары забыліся пра свае перадвыбарныя абяцанні і пачалі праводзіць процілеглую камуністычнай платформе палітыку, пачаўшы злосную, агрэсіўную і амаральную вайну з Прэзідэнтам. Перакананы, палітыка В. Новікава і С. Калякіна накіравана на раскол Вярхоўнага Савета, знішчэнне самой партыі, чаго, заўважу, яны самі не хаваюць. Гэта патэнцыяльна можа паслужыць крыніцай небяспечнага развіцця падзей.

Згубную, на мой погляд, лінію, якую праводзяць В. Новікаў і С. Калякін, падтрымлівае іх «ценявы» кардынал — А. Лашкевіч, які таксама з'яўляецца адным з кіраўнікоў ПКБ. Яго называюць адным з самых багатых людзей у нашай рэспубліцы. З'яўляючыся беларускім суперкапіталістам, ён фінансуе праводзімую В. Новікавым і С. Калякіным палітыку, ператварыўшы агульнапартыйную газету «Товарищ» у свой асабісты рупар. На правах фінансіста гэтага выдання ён, напрыклад, вызваліў ад пасады намесніка галоўнага рэдактара газеты толькі за тое, што той публікаваў водгукі на розныя падзеі ў рэспубліцы камуністаў, якія не ва ўсім пагадзіліся з дзеяннямі В. Новікава і С. Калякіна.

Адзначу, што многія іншыя члены Цэнтральнага Камітэта, кіраўнікі партыйных арганізацый на месцах, а таксама 14 членаў камуністычнай партыі ў парламенце не падтрымліваюць пазіцыі лідэраў партыі.

Па сутнасці, В. Новікаў і С. Калякін наогул не праводзяць ніякай партыйнай арганізатарскай работы. Яны займаюцца вырашэннем трох пытанняў. Прапанаваўшы «альтэрнатыўны» варыянт новай Канстытуцыі, які прадугледжвае, у прыватнасці, ліквідацыю інстытута прэзідэнцкай улады, яны тым самым хочуць уцягнуць краіну ў анархію. Лідэры кампартыі сканцэнтравалі сваю ўвагу на выбіванні сваім людзям пасад і спробах самім прыйсці да ўлады ў рэспубліцы. Асаблівае месца ў дзейнасці В. Новікава і С. Калякіна займаюць інтрыгі і палітычныя інсінуацыі.

Давайце разбяромся, што зрабіў Прэзідэнт і што зрабілі яны ў плане ажыццяўлення сваіх перадвыбарных праграм. Прэзідэнт ініцыіраваў рэферэндум, у ходзе якога народ падтрымаў курс на паглыбленне палітычнай і эканамічнай інтэграцыі з Расіяй. Шляхам таго ж рэферэндуму Прэзідэнт вярнуў народу дзяржаўную атрыбутыку — флаг і герб, з якімі рэспубліка была вызвалена ад фашысцкага заняволення. Прэзідэнт зноў жа праз рэферэндум надаў статус рускай мове роўны дзяржаўнай — беларускай. Прэзідэнт не на словах, а на справе ўсімі наяўнымі сіламі падтрымлівае людзей працы: рабочых, калгаснікаў, настаўнікаў, а таксама студэнтаў, малазабяспечаныя сем'і. Скажыце, хіба не гэтых мэтаў доўгі час пасля распаду Савецкага Саюза дабівалася ПКБ? Што ў дзеяннях Прэзідэнта несумяшчальнае з яе прынцыпамі?

Зусім відавочна, што антыпрэзідэнцкая дзейнасць В. Новікава і С. Калякіна тлумачыцца не якімі-небудзь глабальнымі супярэчнасцямі, а выключна асабістымі палітычнымі амбіцыямі вярхушкі ПКБ.

**— Ці магчыма ў дадзенай сітуацыі дасягненне кампрамісу?**

— Адкажу словамі самога Аляксандра Рыгоравіча. У ходзе сустрэчы з Г. Зюганавым ён падкрэсліў, што абавязковай умовай кампрамісу можа стаць адназначная падтрымка прапанаванага кіраўніком дзяржавы праекта Асноўнага закона на рэферэндуме, які адбудзецца 7 лістапада. Ніякіх іншых — «нулявых», «адзінкавых» або іншых варыянтаў быць не можа, адзначыў Прэзідэнт.

Наогул, факусіраванне ўвагі грамадскасці менавіта на сітуацыі ў кампартыі з'яўляецца, на мой погляд, штучным, створаным самімі спадарамі В. Новікавым і С. Калякіным. Першы віцэ-спікер, напрыклад, з надзвычайнай плённасцю стварае рознага роду опусы антыпрэзідэнцкага зместу, рассылаючы іх ва ўсе газеты. Творы В. Новікава, растыражаваныя, відаць, за кошт капіталіста ад кампартыі А. Лашкевіча, раздаюць нават у падземных пераходах.

А чаго вартая заява В. Новікава аб неабходнасці правесці «чыстку» партыі шляхам пазбаўлення яе радоў ад, як ён сказаў, «дрэні». Ёю кіраўнік партыі назваў ветэранаў!

Неўразуменне выклікае таксама пазіцыя важакоў Аграрнай партыі, праграма якой, як вядома, у многім вельмі падобная з праграмай ПКБ. Кіраўнік аграрыяў, які цяпер займае пасаду спікера парламента, С. Шарэцкі зрабіў нядаўна, на мой погляд, проста абсурдную па сваім сэнсу заяву — маўляў, у Беларусі запахла фашызмам.

Скажу шчыра, не хацелася б гаварыць аб цяперашняй сітуацыі ў кіраўніцтве партыі падрабязна. Мне самому, як члену Мінскага гаркома, знаходзіцца ў радах партыі, якой кіруюць В. Новікаў і С. Калякін, проста брыдка. Разам з тым, застаюся прыхільнікам ідэй сацыяльнай справядлівасці, абароны чалавека працы. Ідэалы, погляды кампартыі па-ранейшаму падзяляю і падтрымліваю.

**— Апошнім часам у нашу рэспубліку зачасцілі вядомыя палітычныя дзеячы з Расіі. Так, напрыклад, нядаўна тут пабывалі сакратар Савета бяспекі Расіі, памочнік Прэзідэнта РФ А. Лебедзь, кіраўнік кампартыі Расіі, уплывовы дэпутат Дзярждумы РФ Г. Зюганаў. Паводле некаторых звестак, не выключаны візіт у нашу рэспубліку прэм'ер-міністра Расіі В. Чарнамырдзіна. Чым, на ваш погляд, абумоўлена такая актыўнасць?**

— Выкажу сваю прыватную думку. Гэта звязана ў тым ліку з не заўсёды аб'ектыўнай інфармацыяй, якую атрымліваюць палітычныя дзеячы Расіі аб рэальнай сітуацыі ў Беларусі. Часам расійскія палітыкі вымушаны меркаваць аб становішчы ў рэспубліцы з матэрыялаў, якія тыражуюцца ў стаўшых апазіцыйнымі да Прэзідэнта сродках масавай інфармацыі.

Расіяне прыязджаюць у Мінск, каб вывучыць рэальнае становішча, пачуць адпаведныя ацэнкі ад самога Прэзідэнта, іншых кіраўнікоў краіны. Аляксандр Рыгоравіч адначасова з інфармацыяй аб існуючых на самай справе праблемах расказвае і аб практычнай рабоце органаў улады і кіраўніцтва па пераадоленню крызісу.

Дарэчы, адначасова з эканамічнымі цяжкасцямі рэальна існуюць і станоўчыя зрухі. Беларускія інжынеры распрацавалі адразу некалькі мадэляў новых сучасных трактароў і камбайнаў, уведзена ў строй адна з буйнейшых у Еўропе вытворчасцей цэменту, праводзяцца розныя фестывалі дзеячаў мастацтваў, ёсць немалыя дасягненні ў галіне навукі. Усё гэта адбываецца, вядома ж, не само па сабе, а з'яўляецца вынікам стабільнасці ў дзяржаве, вынікам кваліфікаванай работы спецыялістаў.

Заўважу, што пасля атрымання аб'ектыўнай інфармацыі аб становішчы ў Беларусі ўсе без выключэння пабываўшыя ў нас расійскія палітыкі выказвалі нашаму Прэзідэнту поўную падтрымку і разуменне яго пазіцыі.

**— У апошнія тыдні Прэзідэнт зрабіў адразу некалькі паездак па розных рэгіёнах рэспублікі. Ён многа выступаў сам у працоўных калектывах, выслухоўваў думкі людзей па розных пытаннях як эканомікі, так і палітыкі. Якую выснову зрабіў кіраўнік дзяржавы па вяртанні ў Мінск?**

— Мне здаецца, Прэзідэнт зразумеў, што ў цэлым праводзімы ім палітычны курс адабраецца, аднак патрабуе сур'ёзных карэкціровак у арганізацыйным, заканадаўчым і матэрыяльным забеспячэнні.

У людзей існуе разуменне таго, што ў рэспубліцы неабходна цвёрдая ўлада, здольная забяспечыць стабільнасць грамадству і рэальна кантраляваць працэсы, якія адбываюцца ва ўсіх яго сферах. Народ просіць Прэзідэнта не адыходзіць ад сваіх прынцыповых пазіцый ва ўгоду якой-небудзь палітычнай сіле, просіць больш актыўна растлумачваць сваю пазіцыю, прычым не толькі ўнутры нашай рэспублікі.

Дыялогі Прэзідэнта ў працоўных калектывах не насілі канфрантацыйнага характару. Людзі адкрыта выказвалі сваю думку, якая часам разыходзілася з пазіцыяй кіраўніка дзяржавы. Былі нармальныя, добразычлівыя дыскусіі.

# У пераходны перыяд палітычныя рэформы непазбежныя, але яны павінны весціся на аснове кампрамісу і цывілізаванага падыходу да вырашэння спрэчных пытанняў

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)

Паводле пераканання Васіля Крэменя, моцная выканаўчая ўлада патрэбна менавіта ў пераходны перыяд, калі многія важныя пераўтварэнні нельга ажыццяўляць аўтаматычна, без намаганняў.

Таму мы з разуменнем ставімся да дзеянняў Прэзідэнта Беларусі, падкрэсліў ён, гэта дазволіць заняцца вырашэннем пытанняў сацыяльна-эканамічнага ўладкавання дзяржавы, духоўнага развіцця, нацыянальнага адраджэння, адным словам, тых канкрэтных праблем, якія штодзень хвалююць грамадзян.

Зацікаўленыя, узаемакарысныя размовы адбыліся з актывам беларускай дыяспары на Украіне, са старшынёй Вярхоўнага Савета Украіны Аляксандрам Марозам, кіраўніцтвам Нацыянальнай акадэміі навук, з супрацоўнікамі інстытутаў сацыялогіі, паліталогіі і нацыянальных адносінаў.

Вядомыя ўкраінскія юрысты, палітолагі і сацыёлагі падкрэслівалі, што Канстытуцыя сама па сабе рэвалюцыі ў эканоміцы, безумоўна, не зробіць і заўтра не знізіць цэны, не павысіць зарплату, пенсію і іншыя сацыяльныя выплаты, але яна закладвае рэальныя перадумовы як для эканамічнай стабілізацыі ў краіне, так і для змянення сітуацыі да лепшага ў бліжэйшай перспектыве. Таму галоўная задача сёння — не займацца бяссэнсавымі палітычнымі спекуляцыямі, а настойліва шукаць шляхі да ўзаемаразумення і кансалідацыі намаганняў розных палітычных партый, рухаў, галін улады на шляху эканамічнага аздараўлення краіны.

Першы значны ўклад у пераадоленне крызісных працэсаў у эканоміцы Украіны, лічаць многія, унёс Вярхоўны Савет, які, прыняўшы Канстытуцыю на сесіі, тым самым зэканоміў каля 50 трыльёнаў карбованцаў, што маглі быць зрасходаваны на правядзенне ўсеўкраінскага рэферэндуму. А што ўжо гаварыць пра тыя каласальныя палітычныя выдаткі, якія панесла б грамадства ў выпадку яго правядзення.

Прыняцце Канстытуцыі стала магчымым дзякуючы і кампрамісным захадам прэзідэнцкай каманды. Прынцыповыя разыходжанні былі, як вядома, па структуры Вярхоўнага Савета. Прэзідэнт настойваў на двухпалатным парламенце, які, на яго думку, дазваляў бы мець больш моцную сувязь з рэгіёнамі праз іх прадстаўнікоў. Але дэпутаты палічылі, што аднапалатны Вярхоўны Савет будзе больш моцны і прынцыповы ў адносінах да прыняцця законаў, а значыць, у адстойванні сваёй пазіцыі. Не пагадзіліся народныя выбраннікі і са змяншэннем колькасці дэпутатаў (як і было, іх засталося 450).

Знайшлі кампраміс дзве галіны ўлады Украіны і ў падыходах да фарміравання Канстытуцыйнага суда. Раней Прэзідэнт прапаноўваў, парламент выбіраў. Цяпер жа «трыяда» галін улады чыніць суд незалежна: ніхто нікога не дубліруе — па шэсць тлумачальнікаў Асноўнага закона прызначаюць і Вярхоўны Савет, і Прэзідэнт, і з'езд суддзяў краіны. Такім чынам, ніводная з галін улады не можа мець не толькі перавагі, але нават паловы саставу суда (для гэтага ўжо трэба ўваходзіць у які-небудзь блок). Да таго ж, ні адна з трох уладаў не можа ўздзейнічаць на выбары старшыні Канстытуцыйнага суда — усе суддзі накіроўваюцца роўнымі, і, каму быць «галоўным», вырашаюць на сваім першым пасяджэнні.

Сустрэчы ў Кіеве паказалі, што і кіраўніцтва Украіны, і проста грамадзяне краіны вельмі цікавяцца падзеямі, што адбываюцца ў Беларусі. Іх цікавіць, як ідзе прыватызацыя, ці ёсць жорсткае дзяржаўнае рэгуляванне эканомікі, ці ставіцца пытанне аб стварэнні дзяржаўнай ідэалогіі, у якім становішчы знаходзіцца рабочы клас, навуковая інтэлігенцыя, якія перспектывы пагаднення з Расіяй, якая абстаноўка ў краіне вакол рэферэндуму, што неабходна зрабіць, каб ва Украіну з Беларусі і ў Беларусь з Украіны паступала аб'ектыўная і больш-менш поўная рознабаковая інфармацыя.

Многімі з гэтых праблем жыве цяпер і Украіна. Таму такія зразумелыя нам усім памкненні людзей і ў Беларусі, і ва Украіне будаваць заможныя квітнеючыя дзяржавы на прынцыпах павагі правоў і годнасці чалавека. Для гэтага трэба паступова рухацца наперад, а не таптацца на месцы, імітуючы рух. Несумненна, нельга ідэалізаваць — шлях гэты будзе цярністы і нялёгкі. Будуць на ім і памылкі, і пралікі, і промахі. Але вядома адно — дарогу адолее той, хто ідзе.

Сустрэчы на ўкраінскай зямлі яшчэ раз пераканалі, што няпроста розным галінам улады вытрымаць экзамен на дзяржаўную мудрасць і палітычную сталасць. Дасягнуць згоды ў грамадстве магчыма толькі шляхам кампрамісу і добра разумеючы высокую меру адказнасці за будучае краіны. Палітыкі Украіны сышліся, адкінуўшы свае амбіцыі, на жаданні і імкненні сумеснымі намаганнямі зрабіць краіну магутнай, квітнеючай дэмакратычнай дзяржавай. Дык можа і ў Беларусі, гледзячы на развіццё падзей ва Украіне, нашы беларускія палітыкі знойдуць, нарэшце, паразуменне? Час настаў.

**Уладзімір АНДРЫЕВІЧ.**

*Мінск—Кіеў—Мінск.*

# КІРМАШ



ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 36 (55)

## ГОМЕЛЬСКИЙ ЗАВОД СТРОЙДЕТАЛЕЙ

предлагает предприятиям и населению высококачественную продукцию собственного производства:

*Форма оплаты любая.*

- **БЛОКИ ДВЕРНЫЕ** типа ДГ, ДУ, ДО
- **БЛОКИ ОКОННЫЕ** и **БАЛКОННЫЕ** типа 02Р и Б2Р
- **ПИЛОМАТЕРИАЛЫ** хвойных и лиственных пород — обрезные и необрезные
- **ДОСКУ** для пола
- **ОБШИВКУ** (вагонку)
- **ПОГОНАЖ** (плинтус, наличник)
- **ТАРУ**

Принимает индивидуальные заказы на изготовление ДАЧНЫХ ДОМИКОВ, САРАЕВ.

***Наш адрес: 246027, г. Гомель, ул. Барыкина, 301.***
***Тел.: 8 (0232) 45-43-79, 45-43-69, факс 45-35-55.***

## Фирма BVC

Копировальная техника, расходные материалы, любые запчасти, ремонт любой сложности, заправка картриджей.

RICOH mita Canon

- Пишущие машинки, принтеры
- Ламинаторы, переплетное оборудование
- Телефаксы, радиотелефоны
- Телевизоры, видео, аудио, СВЧ-печи

☎ (0172) 286-854, 286-882.

## ЗЕНИТ • ZENIT

Вилейский завод «Зенит»

- фотоаппараты,
- прицелы оптические,
- прицелы ночного видения,
- медоборудование,
- карбюраторы и магнето

Тел./факс: (8-01771) 5-31-89, 5-36-92.



## Из «Автоклуба» — на новой «Фелиции»

Уважаемые господа!

30 сентября компания «Пуше» во второй раз провела акт распределения автомобилей «Шкода-Фелиция» по системе «Автоклуб». А значит, в республике появились очередные счастливчики — обладатели новых авто, с чем мы их поздравляем. На сей раз их стало пятеро.

А теперь расскажем читателям, что собой представляет система «Автоклуб» и как через нее можно приобрести автомобиль.

**1. Что такое «Автоклуб»?**

Это новая форма оплаты автомобилей. Система предусматривает формирование закрытых групп из числа клиентов, которые оплачивают стоимость автомобиля ежемесячными взносами.

**2. Каким образом распределяются автомобили?**

Ежемесячно в присутствии всех желающих и под контролем нотариуса проводится жеребьевка и аукцион, по результатам которых и распределяются автомобили. Если вы не хотите просто положиться на удачу, то примите участие в аукционе, где можете предложить оплатить наперед любое количество взносов.

**3. Чем эта система выгодна для клиентов?**

На сегодняшний день есть только два варианта приобретения автомобилей. Или вы оплачиваете всю стоимость сразу, или приобретаете автомобиль по лизингу. Во втором случае вам необходимо оплатить сразу 50—60 процентов стоимости, а остаток погасить в короткий срок и под очень высокие проценты. В нашей системе вы, имея 50—60 процентов, можете принять участие в аукционе и получить автомобиль в первый же месяц.

Если у вас нет сбережений, но вы уверены в своей ежемесячной зарплате, то приобретение автомобиля через «Автоклуб» — ваш единственный шанс.

**4. Почему мы предлагаем вам автомобиль «Scoda»?**

Автомобиль «Scoda» сегодня — это европейское качество. Акции «Scoda» принадлежат концерну «Volkswagen». Вместе с тем по сравнению с другими автомобилями этого класса «Scoda» имеет доступную цену и СТО по всей Беларуси. У вас не будет проблем ни с запчастями, ни с ремонтом. Кроме того на автомобиль, приобретенный через «Автоклуб», предусмотрена гарантия на один год.

**5. Почему данная система продаж надежна?**

Она существует в течение 30 лет и ни разу за этот срок не дала сбоев. Технология системы не допускает никаких проблемных ситуаций. Только в Бразилии и Аргентине через аналогичные системы выдано более 7.000.000 автомобилей. В Польше популярность системы растет с каждым годом. В Беларуси администрированием новой формы продаж автомобилей занимаются специалисты, имеющие богатый опыт по внедрению системы в Польше и все необходимые компьютерные программы. В Москве по такой системе продается автомобиль «Москвич», на Украине — «Таврия».

**Сегодня у вас есть уникальная возможность приобрести автомобиль на новых выгодных условиях. «Автоклуб» представлен по всей Беларуси.**

*Более подробную информацию можно получить по телефонам: 259-40-66, 253-38-91. Торговый Дом «Пуше», ул. Притыцкого 60/2; салон «Фелиция», ул. Ольшевского, 24.*

Згубленае пасведчанне інваліда ІІ-й групы № 072658, выдадзенае на імя Аляксандра Іванавіча СТАТКЕВІЧА, **лічыць несапраўдным.**

Прапаную эфектыўны метад вырошчвання земляніки (клубніц), які дазваляе павялічыць прадукцыйнасць працы ў некалькі разоў. Выслаць перавод 50 тыс. руб. і канверт са зваротным адрасам. *Мой адрас: 231300, г. Ліда, вул. Ламаносава, д. 8, кв. 18. Кавалёву Сяргёю Аляксандравічу.*

## ПІЛЫ

РАМНЫЯ, ДИСКОВЫЕ

НОЖИ и др. инструмент

## СТАНКИ

МНОГОПИЛЬНЫЕ, БРУСОВОЧНЫЕ, РЕЙСМУСНЫЕ, ФРЕЗЕРНЫЕ, ПИЛОРАМЫ

ЭЛЕКТРОДЫ

СВАРОЧНОЕ ОБОРУДОВАНИЕ

ЗЕСА Тел. (0172) 753-103, 751-351. Факс 751-402.

## ВІНШУЕМ!

**Пятра ГЛУСКАГА**, ветэрана вайны і працы з Мацевіч, шчыра віншуе з днем нараджэння ***А. Жалкоўскі з г. Ліды.***

Віншуем дарагую **Валянціну Несцераўну ШУГАЕВУ** з днём нараджэння.

*Тепла твоей души на всех хватает,*
*Ты — мать, ты — бабушка, свекровь.*
*Прими, родная, в день рожденья*
*И благодарность, и любовь.*

***Муж, дзеці, унучка.***

Віншуем з днём нараджэння **Івана Іванавіча СЕРГІЕВІЧА** з г п. Лясны Мінскага раёна.

***Жонка, сын, цесць, цешча.***

Віншуем з днём вяселля **Танечку ЛЯЎЧУК** і **Сяргея СНІТКО**. Хай шчасце і радасць, здароўе і шчырае каханне будуць у вашым доме.

***Мама, Саванчукі, Шушпаковы, в. Чамялы Івацэвіцкага раёна.***

Віншуем з днём нараджэння **Людмілу Васільеўну БУРАК**. Жадаем здароўя, радасці, шчасця.

***Брат, бабуля.***

Сардэчна віншуем **Валянціну ПАЛЬЧЫК** з 60-годдзем і днём нараджэння ўнука Андрэя. Здароўя, шчасця вам дарагія.

***Сем'і Царукоў і Пальчыкаў з в. Вераб'евічы.***

Ад усёй душы і шчырага сэрца віншуем з 60-гадовым юбілеем нашага тату і дзядулю **Мікалая Пятровіча КАВАЛЁВА**. Мы цябе любім і жадаем моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.

***Дзеці і ўнукі, г. Мінск.***

З 60-гадовым юбілеем віншуем **Вітольда Іванавіча ПЛІСКОЎСКАГА**. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і даўгалецця.

***Жонка, дзеці і ўнукі, г. Мінск.***

Дарагая **Галіна Іосіфаўна РАМАНОЎСКАЯ**, сардэчна віншуем цябе з днём нараджэння. Нізкі паклон і вялікі дзякуй за тваю дабрыню, за шчырае сэрца і любоў да нас.

***Муж, дачка, сын, унук Сяргейка.***

**Паважаная Лідзія Іванаўна**! Віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў ва ўсіх справах.

***Сябры па працы, в. Гальнка Клецкага раёна.***

Сардэчна віншуюць з 70-годдзем **Пятра Васільевіча ШУНЬКО**. Жадаюць яму здароўя, доўгіх гадоў жыцця.

***Жонка, дзеці, унукі, праўнукі і сям'я Паховічаў з в. Сялец.***

## ПРАДАЕЦЦА:

Бярвенні для ўзвядзення дачы 10х500 см (10—15 куб. м). Бярозаўскі раён. *Тэл. у Брэсце 22-93-49.*

Новы цагляны дом у прыгарадзе Баранавіч (за 5 км ад горада) *Тэл. у Слоніме 3-22-58. Наташа.*

Слухавы апарат «Электроніка 01» акулярны выпуск 20.07.88. *Тэл. (8-0222)26-10-08.*

Тэлевізар DAEWOO, 37 см па дыяганалі. *Тэл. у Мінску 8-2-210-06-37.*

Карова, у красавіку 3-ці ацёл. *Тэл. у Жлобіне 96-4-55.*

Вялікі дом у Давыд-Гарадку з зямельным участкам. *Тэл. у Карэлічах (8-01596) 2-12-77.*

Дом з гаспадарчымі пабудовамі, агарод 10 сотак. *Звяртацца: 225440, г. Ганцавічы, вул. Грыцаўца, 50.*

Дом з гаспадарчымі пабудовамі, гаражом, лазняй, участак 40 сотак у в. Слабада Мазырскага раёна. *Тэл. у Гомелі 51-22-23, 57-73-36.*

Трохпакаёвая прыватызаваная кватэра ў цагляным доме ў в. Страбудка Лоеўскага раёна, ёсць вада, каналізацыя. *Тэл. (8-247) 3-32-74.*

«Фольксваген-пасат» 81 г. в., растаможаны, з правам продажу, 2400 долараў. Андатра клеткавая. *Тэл. у Ваўкавыску 96-4-14.*

Кабыла пяці гадоў з жарабём. *Тэл. у Мінску 99-33-18.*

Аўтамабіль «ЛуАЗ-969 М», 91 г. в., прабег 50 тыс. км, пластыкавы дах; тэнт для а/м «ЛуАЗ». *Тэл.: (8-01794) 57-1-04.*

«Опель-аскона», 83 г. в., люк, новыя амартызатары, 3250 долараў. *Тэл. (8-272) 5-45-33.*

Дом у Вілейцы, 18 сотак участак, сад, гараж, гаспадарчыя пабудовы, або мяняю на аўтамабіль, гараж. *Тэл. у Мінску: 263-80-10, 257-90-00.*

Дошкі неабразныя, 25 мм. *Тэл. у Стоўбцах (8-217) 58-7-92 пасля 19.00*

Зруб 9х9, крыты шыферам, участак 7 сотак. *г. Беразіно, тэл. 5-46-59.*

Фарба маслена-алкідная (40 бляшанак). *Тэл. у Мінску 254-32-68.*

Дом з гаспадарчымі пабудовамі, зямля, сад у в. Раванічы. *Тэл. у Мінску 243-79-17.*

Катэдж 2-павярховы, цагляны 10х14 м, 8 сотак, прыватызаваны. Без унутраных работ, 19.000 долараў. *Тэл. 8 (01775) 4-28-14.*

Аўтамабіль «УРАЛ-43203 «Кунг», дызель 91 г. в., 7000 долараў. *Тэл. у Міёрах 2-28-31.*

Двухпакаёвая кватэра ў г. Барысаве. *Тэл. у Барысаве 3-96-25.*

Аўтамабілі: «Аудзі-80», «Аудзі-100», «W-Джэта», «Форд-скорпіо», «Опель-амега». 87, 88, 89 гадоў выпуску, не растаможаныя. *Тэл. у Мінску 255-43-87 з 19 да 22 гадзін.*

## СМАРГОНСКІ АГРЭГАТНЫ ЗАВОД

*Тэл./факс (8-01592) 2-29-33*

### ПРАПАНУЕ

- **міні-трактар** МТЗ-082 BS (прывод на 4 колы, рухавік «Briggs & Stratton» бензінавы, 4-тактны, магутнасць 14,5 к.с.)
- **навеска да міні-трактара** (прычэп аўтамабільны, культыватар, граблі, плуг, барана, акучнік, глебафрэза, сенакасілка, бульбакапальнік)
- **матаблок МТЗ-06** (аднацыліндравы, магутнасць 5 к.с.)
- **матаблок МТЗ-12** (двухцыліндравы, магутнасць 10 к.с.)
- **навеска да матаблока** (прычэп да матаблока, акучнік, счэпка універсальная, плуг, культыватар, барана)

**Зрабіце правільны выбар!!!**

## ИНФОРМАЦИОННЫЙ КАТАЛОГ ОПТОВАЯ ТОРГОВЛЯ БЕЛАРУСИ



Это профессиональный справочник для руководителей предприятий и фирм, служб маркетинга и сбыта. Реклама в каталоге "Оптовая торговля Беларуси" престижна и делает фирму широко известной не только в Беларуси, но и за ее пределами.

**Приглашаем к сотрудничеству рекламные агентства и агентов.**

МТЦ

тел.: 262 406, 262 415

## У прадпрымальнікаў — новы часопіс

**Вось яшчэ адна навіна — выйшаў у свет першы нумар часопіса, які будзе працаваць па гэтай тэматыцы. Называецца часопіс «Сіці. Дзелавы горад». У добры шлях яго благаславіў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт.**

Як вядома, у кожнага горада або нават гарадка ёсць уласны Сіці — інакш кажучы, цэнтр дзелавога жыцця. Часцей за ўсё жыцця напружанага, багатага на падзеі, што ўплываюць на стан эканомікі і наш з вамі дабрабыт. Пра іх і будзе расказваць новы часопіс. Журналісты распавядаюць пра надзейнае сховішча для грошай ці сямейных каштоўнасцей — дэпазітарый; пра «электронныя грошы» на базе смарт-картак; аб такой выгаднай справе, як пракат імпартных аўтамабіляў; аб перспектывах гандлю ў самых маленькіх магазінах — ларках, і пра многае іншае.

Часопіс падрыхтаваў і сюрпрызы для сваіх чытачоў.

**(Кар. «Звязды»).**

## РОЗНАЕ

Вышлю літаратуру: народная медыцына, парады гаспадыням і многае іншае. *Звяртацца: 222620, г. Нясвіж, п/с 10.*

Шукаю спецыяліста па вырабу кухоннай мэблі па майму эскізу, з майго матэрыялу ў межах разумнай цаны. *Тэл. у Мінску 241-75-45.*

Прадам брыкет, знаходзіцца ў г. Узда, магу прывезці. *Тэл. у Мінску 254-67-92*

Прапаную для лячэння корань жэньшэню (1 г — 2000 руб.), чагу, насенне мацярдушкі, чумізы і інш. *Звяртацца: 231813, Гродзенская вобл., Слонімскі раён, в. Ашнаравічы, Жукоўскай Алене М.*

Вышлю ўсім жадаючым насенне і траву мацярдушкі лекавай (1 пакет — 5000 руб.) і паштоўку з маркамі для заказнога пісьма. *Звяртацца: 231814, Гродзенская вобл., Слонімскі раён, п/а Высацк. Жукоўскаму Іосіфу Ул.*

Паслугі ксеракопіі. Выгадна, аператыўна. *Тэл. 253-92-26.*

Мяняю драўляны дом у г. Беразіно на кватэру ў Мінску (Першамайскі раён). *Тэл. у Мінску 260-51-10.*

Мяняю 2-пакаёвую кватэру з усімі выгодамі ў в. Старое Сяло Мінскага раёна (у дадатак гараж, «ВАЗ-21061», хлеў, падвал, агарод) на кватэру ў Мінску. *Тэл. 292-77-62.*

Мяняю аднапакаёвую кватэру ў новым доме ў г. Рэчыцы на Барысаў, магчымы варыянты. *Тэл. у Барысаве 2-29-58.*

Мяняю дом з гаспадарчымі пабудовамі ў Лунінцы на дом у Гомелі альбо ў яго прыгарадзе. *Тэл. у Гомелі: (8-023) 55-66-19, 54-24-46.*

Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Валожыне на кватэру ў Мінску (любую). *Тэл. у Валожыне 54-5-23.*

Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў г. Бярозе Брэсцкай вобл. на Слуцк альбо Мінскі раён. *Тэл. у Мінску 254-67-92.*

# ТРАЛЕЙБУС У КРАІНУ ШЧАСЛІЎЧЫКАЎ

**Апошнім часам, здалёк убачыўшы знаёмых, пераходжу на іншы бок дарогі. Такія сустрэчы толькі адымаюць сілы: усе у адзін голас цвердзяць, што быццам бы «эканамічная дэпрэсія» адбіваецца і на іх стане. Пра дэпрэсію я ўсё ведаю сама. А так хочацца пачуць пра шчасце, так хочацца пабачыць ззяючыя вочы, каб забыцца на праблемы. Ці ж дзеля іх мы прыходзім у гэты свет?**

**Дык куды падзелася наша шчасце? Наша рамантычнае, шалёнае, якое было абяцана як узнагарода за тое, што мы ад нараджэння пасяліліся на гэтай зямлі? Хто кажа — адправілася ў эміграцыю і настойліва кліча за сабой. Хто паведамляе, што быццам бы яно знікла ў падполлі і чакае пэўнага моманту, каб з'явіцца перад намі ва ўсёй сваёй прыгажосці. А некаторыя ўжо вырашылі, што шчасце — не болей чым прыдумка для таго, каб неяк растлумачыць людзям, што не проста так яны кожны дзень прачынаюцца і ідуць на працу. Дык няўжо яно і праўда існуе?**

**А можа, узровень шчасця залежыць ад таго, на якую ступень унутранай свабоды здольны чалавек? І ніякія крызісы не адымуць у нашага жыцця чароўных момантаў радасці. А шчасліўчыкі — мы ўсе, таму што перажываем гэтыя моманты, нягледзячы на ніякую дэпрэсію.**

...

Сэрца прыемна сагравала схаваная на грудзях зарплата. Родны завод ашчаслівіў. Жонка сёння не будзе «пілаваць», таму можна дазволіць сабе маленькае свята разам з сябрамі. Пракладзеная дарога сама вяла насустрач доўгачаканай радасці міма непатрэбных ларкоў і магазінаў. Сябры пайшлі раней, напэўна, ужо атаварыліся і чакаюць. А ён ніяк не можа прарвацца праз натоўп, заўсёды так, калі некуды вельмі спяшаешся. А тут яшчэ каля латка з кнігамі прытармазіць прыйшлося, вечна панаставяць так, што нармальнаму чалавеку не прайсці, хіба болей месца няма?

«Праходзь, дзядзька, гэта не для цябе»,— людзі, што выбіралі кнігі, ветліва пасунуліся, балюча закрануўшы самае сэрца. Што ж яны такія ганарлівыя, чым я горшы за іх? «Не-е, чаму ж ... Сартр? Няхай будзе Сартр, мы іх, інтэлігентаў, паважаем...» Скептычна перашмаргнулася нітка жэмчугу на шыі лэдзі, што стаяла побач. «Ну і няхай», — глядзеў рабацяга на хвіліны, што паспешліва збягалі са стрэлак гадзінніка, а ў галаве круцілася думка, што традыцыйнае свята зарплаты прыйдзецца адкласці, не можа ён сабе дазволіць адразу выкінуць столькі грошай на задавальненне і на кнігу. Задавальненні ў яго жыцці — кожную зарплату і часцей, а цяпер для разнастайнасці няхай будзе кніга: што ні кажы, не жыццё, а суцэльная нудота...

Адчыніўшы дзверы, жонка па звычцы адхіснулася. Ён моўчкі сунуў ёй у рукі кнігу: «Вось, пра нас...» Яна з палёгкай усміхнулася. Што там тыя грошы — дзецям на шакаладкі не хопіць. Дзякуй Богу, не п'яны...

...

Падышоў тралейбус. Як ніколі, ён пабліскваў празрыстымі акенцамі, як ніколі, ветліва запрасіў у салон, як ніколі, у яго ўлезлі ўсе, хто жадаў ехаць. «Штосьці адбылося, штосьці, падобна, змянілася ў свеце з учарашняга дня»,— думала дзяўчына, прасоўваючыся да пярэдняй дверцы. Здавалася, людзі ўсміхаюцца, звязаныя агульным здзіўленнем, адчуваюць радасць адзін аднаго. Сёння ўсім павінна быць добра. Таму што свеціць сонца, таму што цёпла, таму што тралейбус такі вялікі — як цэлы свет, у рэшце рэшт, таму, што ёй так хочацца. З галавой акунуўшыся ў зачараванне бабінага лета, раптам адчула настойлівае супраціўленне ўласнай сумкі. Павярнулася, пагляд спыніўся на знаёмых трэшчынах свайго ж кашалька, які непрывычна сціснулі чужыя рукі. Хлопчык спужаўся. Немігаючыя вочы быццам праваліліся ў бездань, пацягнуўшы туды яе шчаслівы твар. Тралейбус спыніўся, выкінуўшы хлопчыка на пустым прыпынку.

«Дзяўчына, кашалёк згубілі».—«Так, дзякуй»,— кіўнула ўважлівай бабулі і скочыла ўслед за хлопчыкам. «На, вазьмі...»— ледзь працягнула маленькую зацертую купюру, а ён шарахнуўся ўбок і кінуўся наўцёкі, не падзяліўшы яе радасць жыцця. «Дурненькі, навошта ад людзей бегаць? Трэба да іх ісці...»

...

Крыўда і боль слепяць вочы. Разгубленая жанчына натыкаецца на прахожых, просіць прабачэння і ідзе далей, і зноў просіць прабачэння... Адна бабулька быццам ўтрымлівае яе ад шляху ў нікуды:«Мілая, табе трэба схадзіць у царкву».— «Мне трэба схадзіць у царкву?»— не разумеючы пытаецца яна, а потым смяецца — над нечаканай парадай, над сабой, над усімі людзьмі. «Трэба схадзіць у царкву...»— выбіваюць па асфальце абцасы яе ботаў. Дабраўшыся нарэшце дадому, яна разумее — трэба.

...Душэўны неспакой таяў разам са свечкай. Удумлівыя вочы праз стагоддзі пазіралі са сцен прама на яе — і Усявышні перажывае разам з намі. А побач прыкрыты ад старонніх покрывам кагосьці мучыў на споведзі душэўны боль. Бацюшка, аслабаніўшы ад цяжкіх мысляў, даў дазвол прычасціцца. Маленькая жанчына ў цёмнай хустачцы, адступіўшы на крок, імкнулася расправіць плечы. Нейкі час яна маўкліва стаяла ў натоўпе, слухаючы шматгалоссе хору. Раптам на самай высокай светлай ноце сарвалася — цёмная хустка прыгнула галаву ў паклоне, затым словы ўзарвалі напружаную цішыню:«Людзі, даруйце мяне». Яе боль аддаўся рэхам ад акружаючых. Ці маюць яны права дараваць, калі самі такія ж падсудныя?

...

Студэнцкі інтэрнат, усе ведаюць, не начлежка. Але зусім па-свойску заўсёды гатовы даць прытулак любому. Гаспадыня пакоя Нона доўга дабівалася, каб у іхнім пакоі не было нават самай найменшай прыметы цывілізацыі. Жыхары гэтага пакоя — прыхільнікі шляху нетэхнакратычнага развіцця свету — лічаць, што стануць духоўна вышэйшым, калі будуць спаць на падлозе, закруціўшыся ў зашмальцаваную, прапахлую потам коўдру, пад галаву паклаўшы абгорнутае тканінай бервяно. Сядзім на пяньках, як на паляне. Магчыма таму весела. Кіпень у шклянцы астыў, і цяжка зразумець, чаму ўсе па інерцыі абсмоктваюць пустую маленькую лыжачку. Напэўна, умоўны рэфлекс — лыжка падсвядома асацыіруецца са смакам нармальнай гарбаты з цукрам. Нона чытае свае вершы пра будучыню і пра любімую Мурку. Трэск свечак дапаўняе асцярожны голас гітары. Яна баіцца разбіць дрыготкую раўнавагу паміж «існую» і «мару». Для жыхароў гэтага пакоя зараз гэтыя словы гучаць аднолькава. Так бывае. У чым сакрэт? Яны ведаюць: трэба не зважаць на тое, што няма цукру. Трэба радавацца таму, што ёсць.

...

Усё пачалося з таго, што аднойчы перад самым носам у Таццяны бухнуўся з даху пад'езда кошык з кветкамі. «Не зразумела»,— падумала Таццяна і ўважліва абследавала сюрпрыз. Кветкі сапраўдныя. Але ніякай запіскі. Яна падумала: «А нічога, калі я...» Асцярожна дастала кветкі, кошык пакінула ля пад'езда.

Кветкі стаялі на дзіва доўга. Прыбіраючы засохлы букет, яна падумала, што нават не ведае, каму падзякаваць. І ўсё ж такі, выглянула ў акно, пракрычала ў вячэрняе паветра:«Дзякуй!»

На наступны дзень яна позна вярталася дадому. Ужо адчыніўшы дзверы пад'езда, раптам пачула, як побач нешта мякка прызямлілася. Азірнулася. Прама на яе даверліва глядзелі бутоны ружаў. Пустая вуліца захоўвала маўчанне.

Дома яна пачала абдумваць здарэнне. Што за здзекі такія? Трэба было абавязкова высветліць усё. План, падобна сапраўднаму адкрыццю, з'явіўся ў сне. Прачнуўшыся, кінула позірк на букет. «Што ж, пабачым, хто каго, — мысленна прыгразіла дзяўчына раскрыўшым душу кветкам. — Засохнуць гэтыя кветкі, трэба будзе прасачыць за домам».

Вечарам яна адчула, што ў пакоі стала неяк няўтульна. Засохлыя зморшчаныя пялёсткі здаваліся змрочным павуціннем на фоне акна. «Ну вось, заўтра пра ўсё даведаюся», — падумала яна. Як ні старалася раскрыць таямніцу кветак, нічога не атрымалася. Увесь дзень з розных кропак сачыла за сваім домам. Знаёмыя і суседзі здзіўлена пазіралі на змерзлую Таццяну, якой «быццам бы не было чаго рабіць». «Кветачная» гісторыя на гэтым скончылася, а без яе стала сумна. Залішняя цікаўнасць здолела абарваць жыццё прыгажосці. Толькі аднойчы ранкам Таццяна заўважыла, што ў фортку забілася першае жоўтае лісце, утварыўшы своеасаблівы букет. «Цуды здараюцца толькі тады, калі ў іх верыць», — вырашыла яна. Тым жа вечарам, калі Таццяна вярталася з працы, перад ёй зноў упала з даху карзіна з кветкамі. Яна асцярожна ўзяла букет, а карзіну закінула на дах пад'езда — няхай напаўняецца кветкамі.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

# ФІЛЬМАТЭКА

- **«Палігон»,**
- **«Далёкія сваякі»,**
- **«Касмічны крыжовы паход»,**
- **«Два прыдуркі з парасём»**

Новую мастацкую кінастужку «**ПАЛІГОН**» прапануюць увазе гледачоў кінамайстры Расіі. Пастаноўку фільма па свайму сцэнарыю, напісанаму сумесна з Валерыем Паповым, ажыццявіў рэжысёр Валерый Родчанка.

У якіх толькі перыпетыях не аказваюцца персанажы гэтай фантастычнай гісторыі. З дапамогай псіхатропных сродкаў кіраўніцтва дзіцячай калоніі спрабуе карэкціраваць паводзіны сваіх «цяжкіх» выхаванцаў: нехта з іх пераўвасабляецца ў індзейца, нехта — у каўбоя, нехта — у імператара Паўла І, хто — у Напалеона, а хто — у Гітлера.

Змяшчаючы герояў у такія палярныя сітуацыі, аўтары лічаць, што ўсё, аб чым яны нам расказваюць, можа адбыцца ў любой краіне з таталітарным рэжымам, калі адны становяцца катамі, а другія — іх ахвярамі. Але ў дадзеным выпадку, як і заўсёды, мэта і метады «педагогаў» натыкаюцца на раз'юшанае супраціўленне тых, хто не жадае ўпісвацца ў падобныя «навуковыя» схемы.

*Галоўных герояў іграюць Андрэй Талубееў, Віктар Міхайлаў, Валерый Краўчанка, Валодзя Рожын, ІгарКіверын, Алёша Кажэўнікаў.*

У ЗША знята мастацкая кінакарціна **«ДАЛЁКІЯ СВАЯКІ»**. Аўтар сцэнарыя — Корці Джойнер, рэжысёр — Эндру Лейн.

Нечаканы прыезд сваякоў, ды яшчэ далёкіх, часцей за ўсё для гаспадароў дома радаснай падзеяй не становіцца. І зразумела, што Рычард Саліва і яго жонка Кейт не вельмі ўзрадаваліся, даведаўшыся, што ім збіраецца нанесці візіт стрыечны брат Рычарда — Гары, з якім той не падтрымліваў ніякіх адносінаў з дзіцячых гадоў.

Тым не менш, брата сустрэлі гасцінна. Гаваркі, зухаваты весялун прыехаў з маўклівай жанчынай па імені Коні. Нязваныя госці аб'явілі, што пабудуць дзень-другі, але, як водзіцца, у назначаны тэрмін не паехалі. Не ведалі даверлівыя гаспадары, што прыгатавалі ім сваякі!..

*У галоўных ролях заняты Мэл Харыс, Дэвід Кэйт, Вільям Кэт, Мэры Кросбі, Браян Бонсол, Сіндзі Пас.*

Кінематаграфісты ЗША і Германіі знялі сумесную мастацкую кінакарціну **«КАСМІЧНЫ КРЫЖОВЫ ПАХОД»**. Яе пастаноўку ажыццявілі рэжысёры Хольгер Хейнаўзер і Клаус Кносель, сцэнарый напісалі Роберт Джы Браун і Юргей Эгер.

Усё гэта адбывалася ў 1345 годзе. Так, ва ўсякім разе, сцвярджае францысканскі манах брат Парвус, які пакінуў для нашчадкаў падрабязнае апісанне. Калі верыць манаху, ён сам быў удзельнікам тых неверагодных падзей у кампаніі са знакамітым англійскім феадалам Роджэрам Джэрнінгемам, лэдзі Кэтрын Вінчэстэр, капітанам Рэдам Джонам Хеймвордам і французам Луі, якога выпісалі з Францыі ў якасці выкладчыка вытанчаных манер. Яшчэ адной актыўнай асобай стаў нехта Бранітар, падданы імперыі Версгор, што знаходзіцца на планеце Тарахан.

Бранітар быў пілотам касмічнага карабля, які нечакана прызямліўся ва ўладаннях Джэрнінгема. Сэр Роджэр даведаўся, што ў Іерусаліме сарацыны разбілі англійскіх крыжаносцаў і, не раздумваючы, вырашыў тут жа адправіцца на дапамогу суайчыннікам. Ён нават перапыніў дзеля гэтай святой справы сваё вяселле. Але нельга сказаць, што з'яўленне маларослых іншапланецян змяніла яго планы. Амаль усе прышэльцы, якіх спачатку прынялі за д'яблаў, былі хуценька перабіты.

*У фільме здымалася Джон Рыс Дэвіс, Рык Овертон, Кэтрын Панч, Патрык Брумер.*

Змогуць паглядзець гледачы і французскую мастацкую кінастужку **«ДВА ПРЫДУРКІ З ПАРАСЁМ».** Сцэнарый Бернара Ноэра і Філіпа дэ Шаверо, рэжысёр — Бернар Ноэр.

Пры першай жа сустрэчы гэтыя суб'екты адчулі адзін у адным роднасныя душы. Патрык быў баксёрам, але рашучасць і агрэсіўнасць у яго праяўляліся ў асноўным за межамі рынгу. А ў спорце яго візітнай карткай стала, як ён сам сказаў, «пабітая морда».

Знаёмства адбылося ў прыдарожным бары...

*Цікава праводзяць свае ролі Жан Рэно і Крысціян Шарметан.*





# БРОНЗАВЫ АНЁЛ БАРОНІЦЬ НАС...

**Ля мінскага касцёла св. Сымона і Алены (Чырвонага касцёла) устаноўлены помнік з надпісам: «Абаронцам Бога, Веры і Хрысціянства». Бронзавы анёл — архангел Міхаіл — забівае кап'ём змея: сімвал перамогі дабра над злом.**

Праехаўшы праз увесь горад, скульптура засталася на плошчы Незалежнасці, благаславіўшы Мінск. Памеры яе — 4,5 метра ў вышыню, 3 метры ў дыяметры, вага — 3 тоны. У якасці эскіза аўтар Віктар Голубеў скарыстаў малюнак з Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынай. Адліў з металу анёла Алег Багданкевіч. Стварэнне і ўстаноўка помніка абышліся прыкладна ў 5000$, якія ўклала ў гэтую высакародную справу адна мінская сям'я.

Асвячэнне помніка адбылося ў суботу, 28 верасня, у 15.00, калі адкрыўся сінод Мінска-Магілёўскай архіепархіі і Пінскай епархіі. Спецыяльна ў гонар гэтай падзеі ў Мінск запрошаны каля 300 святароў, у тым ліку з Ватыкана. Няхай жа бронзавы анёл бароніць нас!

**Яна САВІЦКАЯ.**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння Наталлю Уладзіміраўну ХУРСІК. Здароўя і шчасця табе, дарагая, здзяйснення募 мараў, радасці ў жыцці.*

**Таня, Віктар, Галя, Люся, Дзіна.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння Іну КАРАЛЯШ з в. Грабянец Чэрвеньскага раёна. Зычым шчасця, здароўя, удачы.*

**Сем'і Кораняў, Мазжаравых і Паслядовічаў.**

**Наступны нумар «Звязды» выйдзе ў чацвер, 3 кастрычніка**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Першы намеснік галоўнага рэдактара М. МІХАЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

**Рэгістрацыйны нумар 1.**

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94430 Індэкс 63850.
Зак. № 6386.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12